Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА



# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

27 СЬНЕЖНЯ 1928 г.
№ 15 (58)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


27 СЬНЕЖНЯ 1928 г.

**№ 15 (58)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР

МЕНСК — 1928

# ЗЪМЕСТ.

## П а п р а ў к і.

1) У Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 3 (46) у інструкцыі ВСНГ БССР „Пра парадак рэалізацыі ўстановамі і прадпрыемствамі запасаў лому чыгуну і жалеза", на стар. 9, у п. 4, 3 радок зьверху, **надрукавана**: „ . . . чорных мэталяў, патрэбных для вытворчасьці . . ", **а трэба**: „чорных мэталяў, не патрэбных для вытворчасьці ."

2) У Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 13 (56) у інструкцыі НКУС БССР „Пра парадак аднаўленьня згінутых або прапушчаных запісаў актаў нараджэньняў, сьмерцяў і шлюбаў" на старонцы 12, у п. 11, у 4-м зьверху радку, **надрукавана**: „(арт. 9)", **а трэба**: „(арт, 10)".

## 1. Палажэньне пра фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак.

1. Фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак утвараецца пры Беларускім Сельска-Гаспадарчым Банку і зьяўляецца сталым фондам крэдытаваньня іх.

2. Фонд гэты складаецца з наступных крыніц:

а) з сродкаў ліквідаванага фонду крэдытаваньня мерапрыемстваў для індустрыялізацыі каляктыўных гаспадарак;

б) з выплат, якія будуць паступаць для звароту пазычак, выданых да выданьня гэтага палажэньня каляктыўным гаспадаркам з фонду крэдытаваньня сялянскіх бядняцкіх гаспадарак;

в) з штогадовых адлічэньняў ад прыбыткаў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчай капярацыі;

г) з асыгнаваньняў у дзяржаўным і мясцовым бюджэтах;

д) з процантаў за пазычкі, выдадзеныя з фонду крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак, апроч тае часткі іх, якая ідзе на папаўненьне выдаткаў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту;

е) з іншых паступленьняў.

*Увага.* Сродкі, адпушчаныя ў мясцовым бюджэце, ідуць на крэдытаваньне каляктыўных гаспадарак тых акруг, у бюджэт якіх гэтыя сродкі адпушчаны.

3. Сродкі фонду крэдытаваньня разьмяркоўваюцца Белсельбанкам пасьля ўзгадненьня з Цэнтральным Саюзам Каляктыўных Гаспадарак, паводле зацьверджаных плянаў фінансаваньня каляктыўных гаспадарак.

4. З сродкаў данага фонду крэдытуюцца і старыя і новыя каляктыўныя гаспадаркі.

5. Сумы, атрыманыя для звароту выдадзеных з фонду пазычак, залічваюцца на аднаўленьне фонду.

6. Пазычкі з фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак выдаюцца на тэрмін ад 5 да 20 гадоў на вялікае капітальнае будаўніцтва і ад 3 да 10 гадоў на іншыя патрэбы.

7. Пазычкі з фонду крэдытаваньня каляктыўных гаспадарак з налічэньнем 2½ проц. гадовых, з якіх 2 проц. ідзе на папаўненьне адміністрацыйна-арганізацыйных выдаткаў установ сельска-гаспадарчага крэдыту, а ½ проц. залічаецца ў фонд.

Проценты бяруцца за мінулы час пры паступленьні чарговых выплат пазычкі.

8. Маемасьць, якая набываецца каляктыўнымі гаспадаркамі за рахунак пазычак з гэтага фонду, ідзе ў іх непадзельны капітал.

9. Пры выдачы пазычак каляктыўным гаспадаркам з сродкаў фонду трэба браць пад увагу, галоўным чынам, вытворчыя магчымасьці і арганізацыйную моц гаспадаркі.

Разьмер крэдыту, які вызначаецца для каляктыўнай гаспадаркі, устанаўляецца ў адпаведнасьці з іх патрэбнасьцю ў сродках паводле арганізацыйна-вытворчых плянаў, каштарысу ці іншых адпаведных матар'ялаў.

10. Крэдытаваньне каляктыўных гаспадарак з сродкаў фонду не павінна абмяжоўваць крэдытаваньня іх на тыя самыя мэты за рахунак агульных сродкаў.

11. У першую чаргу крэдытуюцца сельска-гаспадарчыя калектывы якія лічацца членамі аб'яднаньняў калектываў, і асабліва калектыўныя гаспадаркі, якія арганізаваліся з бядняцкіх гаспадарак.

12. Калі ня будзе ў час выплачвацца пазычка з фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня, дык з пазычальнікаў бярэцца пеня за прапушчаны час у разьмеры, ня больш устаноўленага за пазычку процанту. Спагнаная пеня ідзе на павялічэньне фонду.

13. Сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту і Народнаму Камісарыяту Земляробства даецца права кантраляваць мэтавае і гаспадарчае скарыстаньне выдадзеных пазычак. Пазычкі, скарыстаныя не на беспасрэднае прызначэньне, спаганяюцца да выходу тэрміну.

14. Штогод Белсельбанк дае Народнаму Камісарыяту Фінансаў і Народнаму Камісарыяту Земляробства справаздачу аб скарыстаньні фонду.

15. Фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня калектыўных гаспадарак ліквідуецца пастановаю Эканамічнай Нарады.

16. На падставе гэтага палажэньня Белсельбанк разам з Народным Камісарыятам Фінансаў, Народным Камісарыятам Земляробства і Цэнтральным Саюзам Калектыўных Гаспадарак выдае падрабязныя правілы і інструкцыі пра крэдытаваньне калектыўных гаспадарак з гэтага фонду.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

16 лістапада 1928 г.

---

## 2. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра ўзмацненьне загатоўкі лому чорных мэталяў.

У дадатак да пастановы Эканамічнай Нарады за 27 кастрычніка 1928 г. „Пра збор і рэалізацыю лому чорных мэталяў“ (газэта „Савецкая Беларусь“ за 28 кастрычніка 1928 г. № 250, Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Для ўзмацненьня загатоўкі лому мэталяў арганізаваць пры Эканамічнай Нарадзе Камісію ў складзе: Намесьніка Старшыні Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР т. Стракоўскага (Старшыня Камісіі), Намесьніка Народнага Камісара Гандлю БССР т. Абрамсона і Кіраўніка Заходняй Абласной Канторы Ўсесаюзнага Мэталургічнага Сындыкату т. Ташлыка.

2. Усе прадпрыемствы і ўстановы БССР павінны выконваць усе паказаньні Камісіі па пытаньнях, якія тычацца збору лому, а таксама на першае запатрабаваньне Камісіі павінны падаваць ёй матар'ялы аб наяўнасьці, а таксама і аб ходзе загатоўкі, здачы і адгрузкі лому.

3. Даручыць Камісіі на працягу месяца падаць у Эканамічную Нараду даклад аб ходзе загатоўкі лому і пэрспэктывах далейшай яе працы.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

15 лістапада 1928 г.

## 3. Палажэньне пра Лёна-Пяньковы Камітэт пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

1. Каб ажыцьцяўляць і кіраваць ўсімі аб'яднанымі мерапрыемствамі для палепшаньня і разьвіцьця ільнярства і канопляводзтва, як сырцовай базы для прамысловасьці і экспарту, для паляпшаньня загатовак лёну і пянькі, для скарыстаньня іх прамысловасьцю, а таксама каб кантраляваць і правяраць выкананьне ўсіх памянёных мерапрыемстваў, пры Эканамічнай Нарадзе БССР утвараецца Лёна-Пяньковы Камітэт.

2. У склад Лёна-Пяньковага Камітэту ўваходзяць прадстаўнікі: два ад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР, два ад Народнага Камісарыяту Земляробства, адзін ад Народнага Камісарыяту Гандлю, адзін ад Дзяржаўнай Плянавай Камісіі, адзін ад Белсельсаюзу, адзін ад Белкапсаюзу, адзін ад Народнага Камісарыяту Фінансаў і адзін ад Белсельбанку.

Старшыня Камітэту назначаецца Эканамічнаю Нарадаю.

3. У кампэтэнцыю Камітэту ўваходзяць:

а) устанаўленьне рэспубліканскага пляну пасеваў лёну і канапель, пляну загатовак і скарыстаньня сырцу прамысловасьцю і на экспарт;

б) кантроль за выкананьнем апэратыўнымі органамі прынятых плянаў (п. „а“);

в) распрацоўка пытаньняў земляўпарадчых мерапрыемстваў для ўзмацненьня разьвіцьця ільнярства і канопляводзтва;

г) вырашэньне пытаньняў, зьвязаных з утварэньнем фонду сэлякцыйнага насеньня лёну і канапель і з рацыянальным яго скарыстаньнем;

д) апрацоўка і вырашэньне пытаньняў ўсіх іншых агранамічных мерапрыемстваў, у тым ліку:

1) для спрабаваньня насеньня лёну і канапель рознага паходжаньня на дасьледчых станцыях БССР, у савецкіх, каляктыўных і індывідуальных гаспадарках;

2) для рэпрадукцыі высокаякаснага насеньня лёну і канапель ў матачных рассадніках;

3) для масавай ачысткі насеньня лёну і канапель;

4) для арганізацыі палявых досьледаў на дасьледчых станцыях і закладкі паказальных вучасткаў;

5) для абслугоўваньня сялянства спэцыяльным інвэнтаром і машынамі ў справе культываваньня і апрацоўкі лёну і канапель;

6) для забясьпечаньня ільнаводных раёнаў БССР мінэральнымі угнаеньнямі;

е) устанаўленьне мерапрыемстваў для правядзеньня загатовак і кантрактацыі з посьпехам пасеваў лёну і пянькі і кантролю за выкананьнем іх;

ж) распрацоўка мерапрыемстваў для арганізацыі і разьвіцьця індустрыі первястковай апрацоўкі валакна, арганізацыі сеткі лёназаводаў з самымі новымі машынамі, з ужываньнем палепшаных спосабаў мочкі, сушкі і г. д.;

з) распрацоўка пытаньняў капераваньня сялянства ў дачыненьні да культуры і апрацоўкі лёну і пянькі;

і) апрацоўка пытаньня аб стандартах і цэнах на лён і пяньку, пражу, тканіну і пяньковыя вырабы;

к) арганізацыя навукова-дасьледчых і лябараторных работ у галіне вывучэньня лубяных валокан;

л) вырашэньне ўсіх пытаньняў, зьвязаных з прамысловаю пераапрацоўкаю валакна.

4. Пастановы Камітэту, не апратэставаныя зацікаўленымі ведамствамі на працягу трох дзён, уваходзяць у сілу і павінны неадкладна выконвацца. Пратэсты вырашаюцца Эканамічнаю Нарадаю.

5. Камітэт мае права непасрэдна зносіцца з усімі органамі БССР і адпаведнымі (па лёну і каноплях) органамі Саюзу і іншых саюзных рэспублік.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

5 сьнежня 1928 г.

---

## 4. Абежнік Народных Камісарыятаў Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Юстыцыі БССР

**пра ўжываньне судовымі органамі практыкі вынясеньня пастаноў па справах, якія патрабуюць умешваньня РСІ і іншых кантрольных органаў, і пра ўжыцьцё паказанымі кантрольнымі органамі належных захадаў да пяпярэджаньня і знішчэньня заўважаных судамі недахопаў у працы ўрадавых органаў і грамадзкіх арганізацый.**

*Усім судовым органам і органам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.*

Практыка вынясеньня некаторымі судовымі органамі пастаноў па справах, якія патрабуюць ўмешваньньня РСІ і іншых кантрольных органаў, каб папераджаць і зьнішчаць заўважаныя пры разглядзе судовых спраў недахопы ў працы урадавых органаў і грамадзкіх арганізацый, выявіла поўную сваю жыьцёвасьць і мэтазгоднасьць, асабліва па справах, зьвязаных з гаспадарчымі і службовымі злачынствамі.

З гэтай прычыны Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануюць наступнае:

1. Судовым органам, пры вынясеньні пастаноў па справах, асабліва па справах, зьвязаных з гаспадарчымі і службовымі злачынстамі, абмяркоўваць кожнае пытаньне аб тым, ці патрабуюць заўважаныя пры разглядзе спраў недахопы у працы урадавых органаў, і грамадзкіх арганізацый умешваньня органаў рабоча-сялянскай інспэкцыі або іншых кантрольных органаў, калі гэтае пытаньне будзе вырашана станоўча, дык выносіць належныя пастановы з тэрміновым паведамленьнем копій гэтых адзначэньняў адпаведным кантрольным органам.

2. Органам рабоча-сялянскай інспэкцыі і іншым кантрольным органам зараз-жа пасьля атрыманьня ад судовых органаў паказаных у папярэднім пункце копій пастаноў, ужываць патрэбныя захады да папярэджаньня і зьнішчэньня у далейшым заўважаных судамі недахопаў.

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР *К. Элькінд.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Я. Бутар.*

26 лістапада 1928 г.
№ 90.

---

## 5. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўжываньне на транспарце пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за нарушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“.**

Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае:

1. Адмінстрацыйныя пакараньні, прадугледжаныя арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра адказнасьць за парушэньне чыннага заканадаўства аб працы і сацыяльным страхаваньні“ (З. З. БССР 1928 г. № 26, арт. 257), на транспарце накладаюцца транспартнымі вучастковымі (раённымі) інспэктарамі працы, што працуюць у межах БССР, якія прыроўніваюцца да акруговых інспэктароў працы.

2. Штрафы, якія накладаюцца паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 году, спаганяюцца адпаведнымі вучастковымі транспартнымі страхавымі касамі.

3. Скаргі на пастановы транспартных інспэктароў працы аб накладаньні адміністрацыйных пакараньняў падаюцца у Народны Камісарыят Працы БССР праз таго інспэктара працы, які наложыў пакараньне, у тэрміны, прадугледжаныя арт. 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 году.

4. У іншых выпадках, пры накладаньні адміністрацыйных пакараньняў на транспарце, ужываецца інструкцыя НКП БССР за 27 верасьня 1928 г. № 62 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 12).

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

20 лістапада 1928 г.
№ 72.

---

Узгоднена з Цэнтральным Кіраўніцтвам
Саюзу Працаўнікоў Асьветы.

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра назначэньне пэнсій за выслугу гадоў работнікам асьветы.**

*Усім страхавым касам.*

Для разьвіцьця арт. 5 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 8 чэрвеня 1928 г. № 341 „Пра забясьпечаньне пэнсіямі настаўнікаў школ I ступені вясковых і гарадзкіх і іншых работнікаў асьветы на вёсцы“ (Изв. НКТ 1928 г, № 27), Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе:

1. Калі работнік асьветы ня можа падаць патрэбных дакумантаў з тае прычыны, што яны за час эвакуацыі у імпэрыялістычную альбо грамадзянскую вайну былі страчаны (асабліва для работнікаў, што раней працавалі ў мясцох, якія зараз не ўваходзяць у склад СССР), патрэбны стаж работы ў наймах вызначаецца камісіямі працоўнага стажу, якія арганізуюцца паводле арт. арт. 110-125 „Правілаў забясьпечаньня у парадку сацыяльнага страхаваньня па інваліднасьці і ў выпадку страты кармільца“ (Изв. НКТ 1928 г. № 28-29).

2. Каб спросьціць разгляд спраў аб устанаўленьні працоўнага стажу, акруговым страхавым касам даецца права замест выкліканьня сьведак у камісію даручыць раённым упаўнаважаным па працы і сацыяльным

страхаваньні апытваць на месцы, пасылаючы пратаколы апытаньня у адпаведныя страхавыя касы на зацьверджаньне камісіі для ўстанаўленьня працоўнага стажу паводле арт. 118 паказаных вышэй правілаў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

20 лістапада 1928 г.
№ 73.

---

## 7. Пастанова Народных Камісарыятаў Працы і Аховы Здароўя БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы НКП СССР за 7 ліпеня 1928 г. № 375 „Правила устройства временных жилищ облегченного типа для строительных рабочих и для сезонных рабочих промышленных предприятий, производящих и заготавливающих строительные материалы“.**

Народныя Камісарыяты Працы і Аховы Здароўя БССР на падставе арт. 27 абавязковай пастановы НКП СССР за 7 ліпеня 1928 г. № 375 „Правила устройства временных жилищ облегченного типа для строительных рабочих и для сезонных рабочих промышленных предприятий, производящих и заготавливающих строительные материалы“ („Изв. НКТ СССР 1928 г., № 28-29) пастанаўляюць увесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР з наступнымі зьменамі і дадаткамі:

а) у арт. 10 замест 3 м.$^2$ трэба 3,2 м.$^2$;

б) у арт. 15 пасьля слоў „а ва ўзгалоўях ня менш 10 сан.“ дадаць „прамежак паміж ложкамі і з надгорнаю сьцяною павінен быць ня менш 10 сан.“;

в) у арт. 15 пасьля слоў: „праходы між радамі ложак, альбо тапчанам“ дадаць: „а таксама між ложкамі і сьцяною“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

20 лістапада 1928 г.
№ 74.

---

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра пункты першай мэдычнай дапамогі на прадпрыемствах.**

Народны Камісарыят Працы, Народны Камісарыят Аховы Здароўя і Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пастанаўляюць:

I. Пункты першай мэдычнай дапамогі на прадпрыемствах павінны сваячасна рабіць першую мэдычную дапамогу рабочым і служачым, з якімі здарыўся няшчасны выпадак ці якія раптоўна захварэлі ў час работы на прадпрыемствах і перавозіць іх у лекавыя установы.

*Увага.* Пункты першай мэдычнай дапамогі, як правіла, ня робяць сыстэматычнай лекавай дапамогі і ня маюць права выдаваць

больнічных лістоў, апроч тых выпадкаў, калі пункты знаходзяцца пры лекавых установах.

II. Усе пункты першай мэдычнай дапамогі у адносінах да лячэньня знаходзяцца пад наглядам і кіраваньнем бліжэйшай лекавай установы, якая абслугоўвае гэтую установу; у арганізацыйных адносінах пункты падпарадкаваны адпаведнаму органу Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і знаходзяцца на ўтрыманьні апошніх.

III. Пункты першай мэдычнай дапамогі арганізуюцца на тых прадпрыемствах, у якіх працуе больш 100 чалавек рабочых і служачых, калі на адлегласьці ня больш 2 км. няма амбуляторыі, на якую могуць быць ускладзены функцыі рабіць першую дапамогу.

*Увага 1.* На тых прадпрыемставах, на тэрыторыі альбо блізка якіх ёсьць амбуляторыі, на апошнюю могуць быць ускладзены функцыі рабіць першую дапамогу.

*Увага 2.* На тых прадпрыемствах, дзе пункты першай дапамогі не арганізаваны, павінны быць арганізаваны за кошт адпаведнага органу аховы здароўя аптэчкі.

IV. Калі два альбо больш прадпрыемстваў знаходзяцца на адлегласьці ня больш 1 км., дык для іх абслугоўваньня можа быць арганізаваны супольны пункт першай дапамогі.

V. Пункты першай мэдычнай дапамогі арганізуюцца у асобным ізаляваным памяшканьні, якое павінна давацца за кошт адпаведнага прадпрыемства.

VI. Памяшканьне пункту павінна быць прасторным, відным, цёплым, мець належную вэнтыляцыю, пункты павінны мець патрэбнае абсталяваньне—стол, некалькі крэслаў, альбо лавак, канапу, вадаправодны кран з зьлівам, альбо рукамойнік, прыбіральню, шафу для мэдыкамэнтаў.

VII. Органы аховы здароўя павінны за свой кошт дастаўляць пунктам патрэбныя мэдыкамэнты і матар‘ялы.

VIII. Пункты першай мэдычнай дапамогі павінны мець, апроч памяшканьня для абгляду і перавязак, пакой для часовага памяшчэньня цяжка хворых і асоб, з якімі здарыўся няшчасны выпадак.

IX. Сьпісы абавязковага агульнага і мэдычнага абсталяваньня пунктаў, а таксама аптэчак (арт. 3) складаюцца акруговымі інспэктарыятамі аховы здароўя паводле тыпавога сьпісу, які зацьвярджаецца Народным Камісарыятам Аховы Здароўя.

X. Для перавозкі ў лекавыя установы асоб, якія раптоўна захварэлі, пункт павінен быць забясьпечаны транспартнымі сродкамі за кошт прадпрыемства.

XI. Пункт першай мэдычнай дапамогі павінен працаваць увесь час працы прадпрыемства.

XII. Рэгістрацыя хворых і асоб, з якімі здарыўся няшчасны выпадак, пасылка зьвестак аб заразных хваробах, а таксама справаздачнасьць пунктаў вядзецца паводле формы, устаноўленай Народным Камісарыятам Аховы Здароўя.

Зьвесткі аб прафэсіянальных атручэньнях і прафэсіянальных хваробах падаюцца паводле пастановы НКП СССР за 11 лютага 1928 г. № 75 „О порядке представления извещения о профессиональных отравлениях и заболеваниях“ (Изв. НКТ 1928 г. № 12-13).

XIII. Пункты першай дапамогі, апроч таго, што робяць першую дапамогу, дапамагаюць і ўдзельнічаюць у прафіляктычнай працы падкіраўніцтвам і паводле паказаньняў санітарных арганізацый і лекавых установ, якія абслугоўваюць прадпрыемствы:

а) у азнаямленьні з санітарным становішчам прадпрыемстваў, працэсамі вытворчасьці і ўмовамі працы, прафэсіянальнымі шкоднасьцямі і іншымі фактарамі захворваньня, у ўжыцьці праз адпаведныя органы тэрміновых заходаў да іх паслабленьня і адхіленьня;

б) у абсьледваньнях прадпрыемства, якія робяцца санітарнаю інспэкцыяю працы і органамі санітарнага нагляду;

в) у арганізацыі і правядзеньні папярэдніх і проціпошасных мерапрыемстваў (прышчэпак), ізаляцыі, дэзынфэкцыі і інш.;

г) у працы для абгляду стану здароўя рабочых і служачых і ў пэрыадычных абавязковых абглядах рабочых падлеткаў і хворых для накіраваньня апошніх у лекавыя установы, дамы адпачынку, доктарска-кантрольныя камісіі і г. д.;

д) у санітарна-асьветнай працы рабочых і служачых прадпрыемстваў;

е) у арганізацыі пры прадпрыемствах кансультацый і ясьляў і ў наглядзе за іх становішчам і дзейнасьцю;

ж) у навучаньні правілам і спосабам першай дапамогі у няшчасных выпадках рабочых і служачых прадпрыемства.

Калі пункт першай дапамогі кіруецца не доктарам, дык паказаныя прафіляктычныя мерапрыемствы выконваюцца мэдычным пэрсаналам лекавых установ, які аблугоўвае прадпрыемства.

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *У. Стракоўскі.*

1 сьнежня 1928 г.
№ 75.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 17 верасьня 1928 г. № 545 „Временные Правила искусственного освещения фабрик, заводов, мастерских и других рабочих и служебных помещений и мест работы“.**

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 11 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 17 верасьня 1928 г. № 545 „Временные правила искусственного освещения фабрик, заводов, мастерских и других рабочих и служебных помещений и мест работы“ („Изв. НКТ“ 1928 г. № 47-48), пастанаўляе ўвесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

1 сьнежня 1928 г.
№ 78.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра парадак назначэньня раённымі зямельнымі камісіямі на разгляд у другой інстанцыі абскарджаных спраў.

*Зямельным камісіям БССР.*

Зробленая ў бягучым годзе Асобнаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю рэвізія зямельных камісій выявіла, што імі ўжываецца неаднакавы парадак назначэньня на разгляд спраў, па якіх паступілі скаргі на пастановы раённых зямельных камісій.

У адных акругах раённыя зямельныя камісіі, атрымоўваючы скаргі на свае пастановы, самі назначаюць дзень розгляду гэтых скарг у акруговай зямельнай камісіі паводле выпрацаванага ёю пляну судовых пасяджэньняў. У другіх-жа абскарджаныя справы назначаюцца на разгляд акруговымі зямельнымі камісіямі. Назначэньне гэта робіцца па чарзе паступленьня спраў. Стораны, а часам і сьведкі, выклікаюцца павесткамі, якія хоць і пасылаюцца загадзя, але часта ня ўручаюцца ў належны тэрмін, што выклікае адклад спраў. Наогул, названы парадак назначэньня абскарджаных спраў даводзіць да судовай валакіты ў акруговых зямельных камісіях. На разглядзе іх спрэчна-зямельныя справы знаходзяцца ў сярэднім каля 4 месяцаў.

Каб паскорыць разгляд акруговымі зямельнымі камісіямі абскарджаных спраў, Народны Камісарыят Земляробства ўстанаўляе наступны парадак назначэньня іх на разгляд, дзе парадак гэты яшчэ ня ўведзен:

1. Акруговая зямельная камісія складае плян судовых пасяджэньняў на 3 ці 6 месяцаў. Лік пасяджэньняў павінен адпавядаць колькасьці спраў за мінулы час, нармальнаму іх росту і колькасьці, якая можа быць разгледжана ў даным пасяджэньні. Пры складаньні новага пляну бярэцца пад увагу папярэдняя практыка.

2. Кожнай раённай зямельнай камісіі даецца ад 2 да 4 дзён у месяц, на якія яна можа назначыць на разгляд свае абскарджаныя справы. Лік судовых пасяджэньняў, якія назначаюцца ца працягу месяца для разгляду спраў кожнай зямельнай камісіі, павінен адпавядаць сярэдняму паступленьню скарг на пастановы гэтай камісіі.

3. Кожнай раённай зямельнай камісіі вызначаецца лік спраў, які яна можа назначыць на адно пасяджэньне, напрыклад, па 8 спраў, калі ў адным пасяджэньні будуць вырашацца справы 2 раёнаў, па 5—для 3 раёнаў і г. д.

4. Складаючы плян судовых пасяджэньняў, акруговая зямельная камісія павінна пакінуць адзін дзень у тыдні для сваіх спраў, якія яна разглядае ў якасьці першай інстанцыі, а таксама для спраў, атрыманых для новага разгляду з Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю і раней абскарджаных спраў раённых зямельных камісій. Калі ёсьць шмат такіх спраў, дык ліквідацыя іх павінна быць зроблена роўналежнаю сэсіяю, арганізаванаю пасьля ўзгадненьня гэтага пытаньня з акруговым выканаўчым камітэтам.

5. Раённая зямельная камісія, атрымаўшы скаргу на сваю пастанову, вынесенную ёю ў якасьці першай інстанцыі, бярэ судовыя зборы і адразу-ж назначае дзень разгляду абскарджанай справы акруговаю зямельнаю камісіяю паводле пляну яе пасяджэньняў.

6. Раённая зямельная камісія не павінна назначаць разгляду ў другой інстанцыі абскарджанай справы на працягу тэрміну, які даецца старанам для падачы скаргі на вынесеную пастанову.

7. Назначыўшы дзень разгляду справы другою інстанцыяю, раённая зямельная камісія абвяшчае аб гэтым старане, што падала скаргу, пад росьпіску на самой скарзе, другой-жа старане пасылае копію скаргі пры павестцы, у якой дакладна паказваецца час і месца разгляду справы. Калі скарга і судозыя зборы прысланы праз пошту, дык дзень разгляду справы акруговая зямельная камісія паведамляе павесткамі абедзьве стораны.

8. Пасьля назначэньня абскарджанай справы на разгляд яе другою інстанцыяю, раённая зямельная камісія пасылае справу ў акруговую зямельную камісію не пазьней 7 дзён пасьля атрыманьня скаргі і судовых збораў і пры тым настолькі загадзя, каб справа магла быць афармлена канцылярыяю акруговай зямельнай камісіі і вывучана да дня яе разгляду.

9. У адносьніку, пры якім абскарджаная справа пасылаецца ў другую інстанцыю, раённая зямельная камісія паказвае, на які дзень справа назначана на разгляд, калі і праз каго старанам абвешчана пра дзень разгляду справы, а таксама паслана для ўручэньня копія скаргі.

10. Росьпіскі старон аб атрыманьні копіі скаргі і абвяшчэньні дню разгляду справы павінны быць загадзя прысланы ў акруговую зямельную камісію непасрэдна тымі асобамі, якімі гэтыя росьпіскі бяруцца.

11. Раённая зямельная камісія пры абвяшчэньні старанам парадку і тэрміну падачы скарг на яе пастанову растлумачвае, што ёю-ж будзе назначан дзень разгляду справы акруговаю зямельнаю камісіяю, калі вынесеная пастанова будзе абскарджана.

12. Новы парадак назначэньня раённымі зямельнымі камісіямі спраў на разгляд другою інстанцыяю ўжываецца з часу атрыманьня ад яе раённымі зямельнымі камісіямі пляну судовых пасяджэньняў і належнага распараджэньня, але не пазьней 1 студзеня 1929 г.

Народны Камісарыят Земляробства прапануе акруговым зямельным камісіям паводле зьместу гэтага абежніку неадкладна зрабіць належныя загады раённым зямельным камісіям, ускласьці на іх абавязак сваечасовага назначэньня на разгляд абскарджаных спраў і прысылкі іх з росьпіскамі ў акруговую зямельную камісію і забясьпечыць першую інстанцыю бляҥкамі павестак і адносьнікаў. Трэба мець на ўвазе, што затрымка скарг раённымі зямельнымі камісіямі выкліча судовую валакіту, а позная прысылка ў акруговую зямельную камісію абскарджаных спраў і росьпісак давядзе да частага адкладу спраў альбо незаконнага іх вырашэньня бяз росьпісак старон аб атрыманьні павестак. Новы парадак назначэньня на разгляд абскарджаных спраў дасьць добрыя вынікі толькі тады, калі раённыя зямельныя камісіі будуць працаваць акуратна і спраўна.

Нам. Народнага Камісара Земляробства
БССР *К. Масюкоў.*

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага
Кантролю *Я. Лабаноўскі.*

1 сьнежня 1928 г.
№ 3286.

*Дадатак.*

**Каляндарны плян**

судовых пасяджэньняў . . . . . . . . . акруговай зямельнай камісіі на 1929 год для разгляду абскарджаных спраў.

| Назва раённых зямельных камісій | Студзень | Люты | Сакавік |
|---|---|---|---|
| Бабруйская . . | 2/8 9/8 16/8 23/16 | 1/8 8/8 15/8 22/16 | 5/16 19/8 26/16 |
| Слуцкая . . . | 3/5 10/8 17/8 24/8 | 4/5 11/8 18/8 25/8 | 6/8 13/8 26/8 27/8 |
| Рогачоўская . . | 4/5 11/5 18/8 25/8 | 5/8 12/5 18/8 26/8 | 7/8 14/8 28/8 |
| Жлобінская . . | 5/5 12/5 19/5 26/8 | 6/5 13/5 27/8 | 8/8 15/8 29/8 |
| Глуская . . . | 2/8 12/5 22/8 | 7/8 21/8 | 5/8 13/8 27/8 |
| Любанская . . | 3/5 14/5 24/8 | 1/8 27/8 | 7/8 28/8 |
| Старобінская . | 4/5 14/5 28/5 | 4/5 11/5 25/5 | 8/8 29/8 |

Увага. Лічнік азначае дзень месяца, а назоўнік—лік спраў, якія раённая зямельная камісія можа назначыць на разгляд на гэты дзень.

Старшыня акруговай зямельнай камісіі (подпіс).

Сакратар (подпіс).

---

## 11. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак спагнаньня і залічэньня сум, якія паступаюць за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы.**

### I. Агульныя палажэньні.

§ 1. Выдаткі Народнага Камісарыяту Земляробства на вядзеньне платных для землякарыстальнікаў земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ робяцца з дзяржаўнага бюджэту БССР па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства, у сувязі з чым ўся плата за работы, якая бярэцца з зацікаўленых землякарыстальнікаў, ідзе ў даход скарбу па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства.

*Увага.* У даход скарбу ідуць таксама і сумы, якія паступаюць для выплаты нядоімак па земляўпарадчых работах, зробленых за рахунак спэцыяльных сродкаў земляўпарадкаваньня мінулых гадоў.

§ 2. Спагнаньне платы з землякарыстальнікаў за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы ў вызначаныя тэрміны і ва ўстаноўленых разьмерах, а таксама і падлік яе ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты пад непасрэдным кіраваньнем акруговых фінансавых аддзелаў і агульным наглядам Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Земляробства.

§ 3. Раённыя выканаўчыя камітэты для падворнага спагнаньня платы прыцягваюць упаўнаважаных для земляўпарадкаваньня паселішч, якія выбіраюцца паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 5 жніўня 1925 г. (Бюлетэнь СНК БССР № 3 за 1925 г.).

§ 4. Уся плата, якая належыць за работы, ўносіцца адпаведнымі асобамі ў фінансавыя часткі раённых выканаўчых камітэтаў. Апошнія атрыманыя сумы накіроўваюць ва ўстаноўленыя для дзяржаўных даходаў тэрміны ў адпаведныя канторы, аддзяленьні, або агэнцтвы Дзяржаўнага Банку для залічэньня ў даход скарбу.

*Увага 1.* Залічваюцца ў даход скарбу гэтыя сумы незалежна ад таго—ці гэта аванс у рахунак новых работ, ці выплата нядоімак мінулых гадоў, ці пастпленьне ў рахунак работ, якія яшчэ робяцца.

*Увага 2.* Плата за розныя зямельныя дакумэнты, копіі і выкапіроўкі плянаў, даведкі і інш., якія выдаюцца непасрэдна акруговымі зямельнымі аддзеламі, уносіцца платнікамі непасрэдна ў адпаведныя канторы, адзяленьні, або агэнцтвы Дзяржаўнага Банку і залічваюцца ў даход скарбу.

§ 5. Плата за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы бярэцца паводле ставак і ў тэрміны, устаноўленыя пастановаю Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 7 сакавіка 1927 году (гл. Дадатак № 1).

**II. Парадак вызначэньня разьмеру платы і ўстанаўленьня тэрмінаў унясеньня яе.**

§ 6. Разьмер платы, якая належыць за работы, вызначаецца: для разрахункаў па першых двох тэрмінах выплат, якія ўносяцца наперад,—папярэдне і для трэцяга тэрміну—канчаткова.

*Увага.* Плата за выраб, выдачу і пасьведчаньне розных зямельных дакумэнтаў, плянаў, копій з іх вызначаецца адразу ў канчатковым выглядзе.

§ 7. Папярэднюю суму платы і разьмер першых двох тэрмінаў выплат па кожнай справе вызначае зямельная частка раённага выканаўчага камітэту адначасова з вядзеньнем работы па праверцы першапачатковых хадайніцтваў аб земляўпарадкаваньні, паводле арт. 163 Зямельнага Кодэксу, складаючы аб гэтым папярэдні разрахунак паводле наступнай формы і з дадаткам яго да матар'ялаў абсьледваньня:

Папярэдні разрахунак РВК аб разьмеры платы за работы:

Па справе мяркуецца земляўпарадкаваць:

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ........ | гэкт. | паводле | стаўкі | ...... р. | ...... к. | за | гэкт. | На суму ....... | р. ...... | к. |
| ........ | „ | „ | „ | ...... р. | ...... к. | „ | „ | „ „ | р. ...... | к. |
| ........ | „ | „ | „ | р. | ...... к. | „ | „ | „ „ | р. ...... | к. |
| ........ | „ | „ | „ | р. ...... | к. | „ | „ | „ „ | р. ...... | к. |

Разам ........ гэкт. На суму ...... р. ...... к.

Па справе мяркуецца зьняць плату з бедняцкіх двароў у разьмеры ...... % двароў На суму ...... р. ...... к.

На суму ...... р. ...... к.

У І тэрмін трэба выплаціць гатоўкаю 30 % ...... р. ...... к.

„ II „ „ „ „ 30 % ...... р. ...... к.

*Увага 1.* Плата за работы зямельнай рэгістрацыі, якія робяцца паводле хадайніцтва насельніцтва, ня можа дзяліцца.

*Увага 2.* Суму платы за выраб, выдачу і пасьведчаньне розных зямельных дакумэнтаў, плянаў, копій з іх, дазедак, калі гэта робіцца ў акруговых зямельных аддзелах, вызначае акруговы

земляўпарадчык, або інструктары земляўпарадкаваньня і зямельнай рэгістрацыі, робячы аб гэтым разрахунак на пададзенай прасьбітам заяве.

§ 8. Раённы выканаўчы камітэт, разглядаючы і задавольваючы хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні, паводле арт. 164 Зямельнага Кодэксу, адначасова разглядае і зацьвярджае паказаны папярэдні разрахунак належнай платы, устанаўляе тэрмін унясеньня платы 1-га тэрміну і папярэдні % двароў у кожным паселішчы, з якіх, як бядняцкіх двароў, не павінна, пакуль што, брацца плата, і прапануе належнаму сельскаму савету ў азначаны тэрмін:

а) скласьці папярэдні сьпіс бядняцкіх двароў паселішча ў межах паказанага % двароў і

б) зрабіць падворнае разьмеркаваньне платы 1-га тэрміну паміж дварамі, не запісанымі ў сьпіс бядняцкіх двароў.

*Увага 1.* На плату за работы зямельнай рэгістрацыі, якія робяцца паводле хадайніцтва насельніцтва, патрабаваньне падаецца на ўсю суму, якая павінна быць выплачана гатоўкаю.

*Увага 2.* Пастанова раённага выканаўчага камітэту і прапанова сельскаму савету складаецца паводле далучанай формы № 1. (Дадатак № 3).

§ 9. Сельскі савет для складаньня папярэдняга арыентацыйнага сьпісу бядняцкіх двароў паселішча абавязкова прыцягвае да ўдзелу мясцовы камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і ўпаўнаважаных для земляўпарадкаваньня паселішча. Пры чым двары для ўключэньня ў гэты сьпіс сельскі савет падбірае на падставе аднае ці некалькіх прымет права на атрыманьне ільгот, якія ёсьць у таго ці іншага двара, паводле §§ 29-32 гэтай інструкцыі.

§ 10. Паказаны арыентацыйны сьпіс складаецца сельскім саветам паводле далучанай формы № 2 і запаўняюцца пакуль што графы 1, 2 і 3, падпісваецца ўсімі ўдзельнікамі складаньня яго і абвяшчаецца на агульным сходзе грамадзян паселішча з папярэджаньнем такіх, што канчаткова дакладныя сумы скідак платы асобна з кожнага двара і агульнай для паселішча будуць устаноўлены сельскім саветам і зацьверджаны раённым выканаўчым камітэтам пасьля таго, як будуць вызначаны зямельныя правы кожнага двара, у выніку правядзеньня земляўпарадкаваньня, і разгледжаны скаргі, якія могуць паступіць ад зацікаўленых грамадзян на няправільнасьці, зробленыя сельскім саветам у часе складаньня сьпісу і ўстанаўленьня дакладных сум скідак платы (форму № 2, гл. у Дадатку № 4).

Сьпіс складаецца ў трох экзэмплярах, з якіх: адзін даецца сельскім саветам упаўнаважаным паселішча, адзін пакідаецца ў сельскім савеце і адзін накіроўваецца сельскім саветам раённаму выканаўчаму камітэту для далучэньня да земляўпарадчай справы.

§ 11. Упаўнаважаныя для земляўпарадкаваньня паселішча, атрымаўшы ад сельскага савету арыентацыйны сьпіс бядняцкіх двароў, ня маюць права вымагаць ад двароў, запісаных у гэтым сьпісу, выплаты тых ці іншых сум у рахунак платы за земляўпарадкаваньне аж да канчатковага зацьверджаньня яго і разрахунку платы раённым выканаўчым камітэтам.

§ 12. Апавяшчаючы праз належны сельскі савет зацікаўленых землякарыстальнікаў (у асобе іх упаўнаважаных) аб вынесенай пастанове раённага выканаўчага камітэту пра задаволеньне хадайніцтва і вызначэньне разьмеру і тэрміну ўнясеньня платы 1-га тэрміну, трэба папярэджваць такіх, што калі плата 1-га тэрміну ня будзе ўнесена, дык хадайніцтва будзе пакінута без далейшага руху.

§ 13. На падставе зацьверджанага папярэдняга разрахунку платы, пасланай прапановы сельскаму савету паводле формы № 1 і іншых даных па справе, фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту пачынае наглядаць за паступленьнем платы за земляўпарадкаваньне па картачнай сыстэме, паводле §§ 52—55 гэтай інструкцыі.

§ 14. У плян работ для выкананьня, паводле арт. арт. 161, п. 2 і 164 Зямельнага Кодэксу, раённы выканаўчы камітэт павінен уключаць толькі справы, за якія ўнесена ўся плата 1-га тэрміну, аб чым у кожнай земляўпарадчай справе фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту павінна адзначаць выплачаную суму і № прыходнага артыкулу касы.

*Увага.* Акруговыя фінансавыя аддзелы правяраюць выкананьне гэтай умовы раённымі выканаўчымі камітэтамі пасьля атрыманьня акруговымі зямельнымі аддзеламі раённых плянаў работ з справамі і, калі ёсьць разыходжаньні з устаноўленым парадкам, ужываюць захады да зьнішчэньня такіх і прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

§ 15. Атрымаўшы ад акруговага зямельнага аддзелу зацьверджаны ва ўстаноўленым парадку выканаўчы плян работ па земляўпарадкаваньні на пэўны вытворчы пэрыяд, раённы выканаўчы камітэт (праз сваю фінансавую частку), у залежнасьці ад вызначанай у пляне чаргі выкананьня спраў і тэрмінаў распачацьця работ у натуры па правядзеньні земляўпарадчых дзеяньняў, паказаных у арт. 161, п. 2, Зямельнага Кодэксу:

папершае—вызначае ў кожнай справе тэрмін унясеньня платы ІІ-га тэрміну ва ўстаноўленым разьмеры,

падругое—паведамляе аб іх упаўнаважаных для земляўпарадкаваньня паселішч (ф. № 3 у Дадатку № 5) і

патрэцяе—прымае такія да нагляду па адпаведных разрахункавых картках.

Пры гэтым упаўнаважаныя папярэджваюцца, што неўнясеньне ў вызначаны тэрмін платы ІІ-га тэрміну выкліча страту чаргі выкананьня работ, калі такія не пачаты, і прыпыненьне, калі такія былі пачаты.

*Увага.* Падворнае спагнаньне платы 2-га тэрміну ўпаўнаважаны робіць паводле падворнага раскладу сельскага савету, устаноўленага для платы 1-га тэрміну.

§ 16. Канчатковую суму платы і разьмер платы 3-га тэрміну ў кожнай справе (паселішчы, калі справа складае дачу разьверстаньня) вызначае земляўпарадчык, які вядзе справу, зараз-жа пасьля таго, як будзе ім дакладна вымерана і вылічана плошча па справе (паселішчы, калі справа складае дачу разьверстаньня) і будуць ім дакладна вызначаны новыя зямельныя правы кожнага двара.

§ 17. Канчатковы разрахунак платы, які складаецца земляўпарадчыкам, павінен складацца з двух частак: агульнага разрахунку па справе ў агульных сумах (паселішчы, калі справа складае дачу разьверстаньня) і разьмеркаваньня агульнай сумы платы паміж паасобнымі дварамі ў адпаведнасьці з новымі зямельнымі правамі кожнага двара. Агульны разрахунак платы складаецца паводле ф. № 4 у дадатку № 6, а для разьмеркаваньня платы паміж дварамі—паводле ф. № 2.

*Увага 1.* Акруговыя зямельныя аддзелы, аддаючы земляўпарадчыку справы для выкананьня, павінны даць належную колькасьць блянку ф. ф. № 2 і 4, лічачы па 3 экз. на кожнае паселішча.

*Увага 2.* У форме № 2 земляўпарадчык пад сваю адказнасьць запаўняе гр. гр. 1, 2, 4 і 5. Графы 3 і 6 запаўняюцца сельскім саветам пры актыўным удзеле земляўпарадчыка. Графы 7 і 8

запаўняюцца зямельнаю часткаю РВК пасьля зацьверджаньня разрахунку платы і льгот раённым выканаўчым камітэтам.

§ 18. У момант складаньня канчатковага разрахунку платы арыентацайны сьпіс бядняцкіх двароў (§§ 9—11) можа быць дапоўнен, або скарочан, калі для гэтага будуць належныя падставы, паводле §§ 29—32 гэтай інструкцыі. Гэтыя зьмены і дадаткі робяцца належным сельскім саветам з удзелам мясцовага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і ўпаўнаважаных для земляўпарадкаваньня паселішч.

§ 19. Складзены земляўпарадчыкам канчатковы разрахунак платы, у які залічаюцца вызначаныя сельскім саветам скідкі платы для бядняцкіх двароў, абвяшчаецца грамадзянам паселішча, якія пры гэтым папярэджваюцца, што ўсе скаргі на няправільнасьці ў часе дачы льгот павінны быць паладзены на працягу двух тыдняў з моманту абвяшчэньня ў зямельную частку раённага выканаўчага камітэту для праверкі іх і прыняцьця пад увагу ў часе канчаткавага зацьверджаньня льгот.

§ 20. Агульны канчатковы разрахунак і канчатковы разрахунак з падворным разьмеркаваньнем земляўпарадчык накіроўвае ў 2-х экз. не пазьней як праз два тыдні пасьля складаньня і абвяшчэньня яго насельніцтву ў належны раённы выканаўчы камітэт для канчатковага зацьверджаньня.

§ 21. Раённы выканаўчы камітэт, атрымаўшы ад зямляўпарадчыка канчатковы разрахунак і маючы дырэктыўныя кантрольныя лічбы акругавага зямельнага аддзелу аб гранічных разьмерах скідак па кожнай справе на льготы бядняцкаму насельніцтву (§ 22), разглядае і зацьвярджае яго ў асобнай камісіі, якая складаецца з старшыні раённага выканаўчага камітэту (старшыня камісіі), загадчыка зямельнай часткі яго (намесьнік старшыні), загадчыка фінансавай часткі яго, прадстаўніка раённага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і аднаго ад насельніцтва (упаўнаважанага або члена сельскага савету).

*Увага 1.* Канчатковую суму скідкі платы на льготы ў разьмеры ўстаноўленага % камісія вызначае ад кашту работ, а не ад ліку двароў.

*Увага 2.* Пастанова камісіі зьяўляецца законнай, калі яна вынесена трыма асобамі, лічачы і старшыню, прычым прысутнасьць прадстаўніка камітэту сялянскіх таварystваў узаемадапамогі заўсёды абавязкова.

*Увага 3.* Матар'ял для дакладу камісіі падрыхтоўвае зямельная частка раённага выканаўчага камітэту.

*Увага 4.* Пастанова камісіі складаецца паводле далучанай формы № 5 (Дадатак № 7).

*Увага 5.* Пастанова гэтай камісіі зьяўляецца канчатковай і абскаржвацца ў вышэйшыя органы ня можа.

§ 22. Акруговы зямельны аддзел на падставе агульных дырэктыў Народнага Камісарыяту Земляробства і зацьверджанага параённага пляну земляўпарадчых работ на вытворчы пэрыяд, павінен не пазьней 1-га чэрвеня кожнага году даць кожнаму раённаму выканаўчаму камітэту ўзгоднены з акруговым фінансавым аддзелам плян кантрольных лічбаў скідак платы па кожнай справе.

*Увага 1.* Кантрольныя лічбы скідак платы па кожнай справе вызначаюцца ня ў рублёх, а ў %%.

*Увага 2.* Раённы выканаўчы камітэт ня можа выходзіць з дадзеных кантрольных лічбаў бяз згоды акруговых зямельнага і фінансавага аддзелаў. Хадайніцтвы аб зьменах раённы выканаўчы камітэт падае ў акруговы зямельны аддзел.

§ 23. Увесь працэс дачы льгот і зацьверджаньня канчатковага разрахунку платы раённым выканаўчым камітэтам павінен быць праведзен па кожнай справе з такім разьлікам, каб зараз-жа пасьля атрыманьня ад земляўпарадчыка абвесткі аб дні паказаньня насельніцтву земляўпарадчага праекту, паводле арт. 170 Зямельнага Кодэксу, было-б паслана паведамленьне ўпаўнаважаным для земляўпарадкаваньня паселішча аб назначэньні тэрміну ўнясеньня III-й апошняй платы. (Дадатак № 8). Тэрмін выплаты ўстанаўляецца за 7 дзён да вызначанага дня паказаньня земляўпарадчага праекту.

*Увага 1.* Паведамленьне пасылаецца фінансаваю часткаю раённага выканаўчага камітэту пасьля атрыманьня ад зямельнай часткі яго аднаго экзэмпляру зацьверджанага канчатковага разрахунку, а час унясеньня платы III-га тэрміну адзначаецца для нагляду за выкананьнем яго ў адпаведнай картцы.

*Увага 2.* Другі экзэмпляр зацьверджанага канчатковага разрахунку зямельная частка раённага выканаўчага камітэту аддае земляўпарадчыку для далучэньня да земляўпарадчай справы.

§ 24. Паказаны у §§ 5-23 інструкцыі парадак вызначэньня разьмеру платы, дачы льгот і ўстанаўленьня тэрмінаў выплаты, пашыраецца таксама на разрахункі з зямельнымі грамадамі і іншымі землякарыстальнікамі, земляўпарадкаваньне якіх робіцца ў абавязковым для іх парадку паводле пастаноў земляўпарадчых устаноў, паводле арт. 151 Зямельнага Кодэксу.

§ 25. Калі раённым выканаўчым камітэтам, паводле арт. 163 Зямельнага Кодэксу, задавальваецца хадайніцтва аб выдзяленьні каляктыўнай гаспадаркі з зямель тае ці іншай грамады бяз згоды грамады на земляўпарадкаваньне тэрыторыі, якая застаецца за выдзелам то, паводле арт. 6 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 5 чэрвеня 1928 году (З. З. БССР 1928 г., № 21, арт. 205), ніякая плата за работы для выдзяленьня такой калякгыўнай гаспадаркі не бярэцца.

§ 26. Калі зямельная грамада, з зямель якой выдзяляецца калякгыўная гаспадарка, падымае хадайніцтва ў працэсе выдзяленьня, а таксама і пазьней аб земляўпарадкаваньні і тае тэрыторыі, што засталася за выдзелам, то разрахунак і патрабаваньне аплаты работ на гэтай тэрыторыі робіцца па поўнай таксе на агульных падставах.

§ 27. Калі земляўпарадчая справа, што пачалася выконвацца ў натуры, будзе вядзеньнем спынена паводле арт. 165 Зямельнага Кодэксу, то земляўпарадчык павінен скласьці канчатковы разрахунак належнай агульнай і падворнай платы, толькі на зробленую частку работы, кіруючыся наступнаю табліцаю ацэнкі ў %% ад усяе справы выкананых стадый работ (гл. Дадатак № 2).

§ 28. Калі сума выплачанай землякарыстальнікамі платы па спыненай справе не пакрывае сумы кошту работ паводле канчатковага разрахунку, то фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту прапануе ўпаўнаважаным для земляўпарадкаваньня належных паселішч і іншых землякарыстаньняў унесьці нехапаючую суму на працягу двух тыдняў ад дню атрыманьня паведамленьня. Пасьля выхаду гэтага тэрміну недаплата робіцца нядоімкаю і зараз-жа спаганяецца ў бясспрэчным парадку.

Калі-ж сума выплачанай платы па спыненай справе перавышае суму кошту зробленых работ паводле канчатковага разрахунку, то пераплата зварочваецца паводле § 51 гэтай інструкцыі.

**III. Прыметы, якія даюць права на атрыманьне льгот па аплаце работ.**

§ 29. Ільготы па аплаце земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ устанаўляюцца двух відаў; а) зусім не бярэцца плата і б) бярэцца частка платы.

§ 30. Зусім не бярэцца плата з:

а) груп двароў, якія арганізуюць каляктыўныя гаспадаркі на сваіх надзельных землях, ці на землях запаснага фонду:

б) сем'яў інвалідаў грамадзянскай і імпэрыялістычнай вайны і асоб, якія знаходзяцца на сацыяльным забясьпечаньні;

в) сем'яў чырвонаармейцаў і каманднага складу Чырвонай Арміі і Флёту, якія атрымоўваюць дапамогу ад Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў альбо ад Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня.

*Увага.* За паказанымі семьямі захоўваецца права на атрыманьне ільгот на працягу аднаго году ад дня звальненьня членаў сям'і з Чырвонай Арміі і Флёту.

г) Сем'яў былых чырвоных партызанаў і чырвонагвардзейцаў, якія актыўна змагаліся з абшарнікамі і капіталістымі;

д) бядняцкіх сялянскіх гаспадарак, з якіх зьнімаецца сельска-гаспадарчы падатак;

е) безьзямельных і малазямельных сем'яў, якія расьсяляюцца на землях зямельнага фонду ў парадку надзяленьня і данадзяленьня іх да ўстаноўленых мінімальных норм надзяленьня, калі ў іх няма сталых заробкаў, або даходаў;

ж) камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі за зямельныя вучасткі, якія адводзяцца ім, а таксама з грамад, што земляўпарадкоўваюцца, за вучасткі грамадзкага значэньня, напрыклад: школьныя, дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі, могілкі і інш.

§ 31. Зусім або частка платы не бярэцца з цэлых паселішчаў і пасобных гаспадарак, што пацярпелі ад навальных бядот, такіх як: пажар, паморак на жывёлу, сьмерць работніка ў гаспадарцы і інш., у залежнасьці ад разьмеру бядоты і на працягу ня больш двух гадоў пасьля яе.

§ 32. Дастатковымі довадамі права на ільготы, паводле гэтай інструкцыі, зьяўляюцца:

а) паводле § 30, п. „а“—наяўнасьць у раённага выканаўчага камітэту даных аб рэгістрацыі статуту калектыву;

б) паводле § 30, п. п. „б“, „в“, „г“, „д“ і „е“—даведка мясцовага камітэту сялянскіх тавырстваў узаемадапамогі, органаў Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў, або органаў Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня, або адзнака сельскага савету аб тым, што з даных гаспадарак зьнят сельска-гаспадарчы падатак;

в) паводле § 30, п. „ж“—даныя земляўпарадчага праекту, або раённага выканаўчага камітэту;

г) паводле § 31—наяўнасьць у сельскім савеце ліквідацыйных актаў прадстаўніка дзяржаўнага страхаваньня, паводле інструкцыі для агэнтаў дзяржаўнага страхаваньня БССР, або:

1) для асобных гаспадарак—акты, складзеныя прадстаўнікам сельскага савету і сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі з удзелам двух грамадзян і

2) для цэлых паселішч—акты, складзеныя раённым выканаўчым камітэтам з удзелам раённага агранома і прадстаўніка раённага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

У паказаных актах павінны адзначацца разьмер бядоты і страты гаспадаркі.

### IV. Парадак спагнаньня платы ўпаўнаважанымі зямельных грамад з паасобных двароў паселішчаў.

§ 33. Упаўнаважаныя зямельных грамад для земляўпарадкаваньня павінны спаганяць з паасобных двароў паселішча плату за правядзеньне земляўпарадкаваньня ў межах сум, устаноўленых земляўпарадчыкам у канчатковым падворным разрахунку, складзеным ім паводле §§ 16—19 і зацьверджаным раённым выканаўчым камітэтам паводле §§ 20—21 гэтай інструкцыі.

§ 34. Для выкананьня патрабаваньняў фінансавай часткі раённага выканаўчага камітэту аб унясеньні платы I і II тэрмінаў у разьмерах, якія вызначаюцца і зацьвярджаюцца папярэдне, г. зн. калі яшчэ ня вызначана і не зацьверджана дакладнае падворнае разьмеркаваньне платы, упаўнаважаныя назначаную для ўнясеньня суму тэрміновай платы спаганяюць з двароў, не запісаных у арыентацыйным сьпісе бядняцкіх двароў (§§ 9—10) паводле прыблізнага раскладу. Гэты прыблізны расклад робіцца сельскім саветам з удзелам упаўнаважаных у залежнасьці ад фактычнага разьмеру землякарыстаньня двароў і даецца ўпаўнаважаным пры патрабаваньні платы I-га тэрміну.

§ 35. Для ўстанаўленьня кантролю за правільнасьцю дзеяньняў упаўнаважаных у справе спагнаньня платы з боку зямельнай грамады і ўрадавых органаў і для дакладнага і правільнага вызначэньня пэрсанальных нядоімшчыкаў у часе правядзеньня прымусовага спагнаньня нядоімак платы, упаўнаважаныя павінны:

а) аб прыняцьці грошай ад кожнага двара выдаваць апошняму падпісаны імі квіток паводле далучанай формы № 7 (Дадатак № 9), і

б) рабіць агульны і падворны падлік належачай да спагнаньня платы і спагнанай паводле далучанай формы разрахунковага сшытку № 8 (Дадатак № 10).

У разрахунковым сшытку кожнаму двару адкрываецца асобная старонка абавязкова пад прозьвішчам гаспадара двара.

Сума, назначаная для ўнясеньня платы I і II тэрмінаў для кожнага двара, запісваецца тая, якая ўстаноўлена сельскім саветам у парадку прыблізнага раскладу. Сума платы III тэрміну ўстанаўляецца, як рэшта паміж поўнаю сумаю платы, зацьверджанаю раённым выканаўчым камітэтам, і прыблізнымі сумамі першых двух тэрмінаў.

У калёнках 1, 2 і 3 рахунку кожнага двара паступова запісваюцца ўсе сумы, якія кожны двор выплачвае ўпаўнаважанаму ў рахунак платы, і абавязкова паказваецца дзень і месяц выплаты і № квітка, паводле якога прыняты грошы.

Агульны рахунак на паселішча павінен быць роўны суме ўсіх асабовых рахункаў паасобных двароў.

> *Увага.* Разрахунковыя сшыткі і квітковыя кніжкі ўпаўнаважаныя атрымоўваюць праз належны сельскі савет ужо пасьведчанымі.

§ 36. Упаўнаважаны атрыманую ад паасобных двароў плату ўносіць не пазьней 2-х тыдняў пасьля атрыманьня ад насельніцтва ў фінансавую частку раённага выканаўчага камітэту свайго раёну з сьпісам, у якім абавязкова і дакладна адзначае:

а) прозьвішча гаспадара двара, за якога ўносяцца грошы;

б) №№ квіткоў супроць кожнага гаспадара, паводле якіх спагнаны грошы з іх, і

в) суму, якая ўносіцца за кожнага гаспадара.

> *Увага 1.* У паказаны сьпіс упаўнаважаным уносяцца ўсе сумы, сабраныя да дня здачы грошай.

*Увага 2.* Квіткі фінансавай часткі раённага выканаўчага камітэту аб прыняцьці грошай паводле такіх сьпісаў зьяўляюцца для ўпаўнаважаных апраўдальнымі дакумэнтамі аб здачы сабраных сум.

**V. Парадак прыйманьня платы ў фінансавых частках раённых выканаўчых камітэтаў.**

§ 37. Фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту павінна прымаць плату за земляўпарадкаваньне толькі ад тых паселішч або землякарыстальнікаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі данага раёну і земляўпарадкоўваюцца паводле яго пляну работ.

§ 38. Плата за земляўпарадкаваньне ад паасобных двароў тае ці іншай грамады фінансавымі часткамі раённых выканаўчых камітэтаў ня прымаецца, а прымаецца яна або ад упаўнаважаных для земляўпарадкаваньня паселішчаў, або ад адпаведнага сельскага савету, калі такі распачаў прымусовае спагнаньне нядоімак.

*Увага.* Ад паасобнага гаспадара або землякарыстальніка плата можа быць прынята тады, калі землякарыстаньне яго земляўпарадкоўваецца, як асобная самастойная справа, і ёй адкрываецца асобная разрахунковая картка.

§ 39. Фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту, прымаючы плату за земляўпарадкаваньне, патрабуе ад асоб, якія ўносяць яе, каб яны абавязкова падалі выплатную заяву, паводле ф. № 9 (Дадатак № 11), і дадалі да заявы сьпіс тых гаспадароў паселішча, за якіх уносяцца грошы, у якім павінны быць паказаны асобна сумы за кожны двор (§§ 36 і 45), і з свайго боку аб прыняцьці платы выдае падпісаны і з пячаткаю або ўстаноўлены квіток, або копію выплатной заявы з адзнакай аб прыняцьці.

*Увага 1.* Выплатная заява фінансаваю часткаю накіроўваецца ў належную кантору, аддзяленьне або агэнцтва Дзяржаўнага Банку ў агульныя тэрміны, устаноўленыя справаздачнасьцю па дзяржаўных даходах, як падстава прыняцьця сум даходаў.

*Увага 2.* На выплатнай заяве і падворным сьпісе фінансавая частка абавязкова робіць адзнакі: № артыкулу прыходу па касе, № выданага квітка аб прыняцьці і № разрахунковай карткі.

*Увага 3.* Падворны сьпіс далучаецца да справы: „Спагнаньне платы за земляўпарадкаваньне", якая сыстэматызуецца ў парадку №№ разрахунковых картак, і скарыстоўваецца ў далейшым пры складаньні сьпісу пэрсанальных нядоімшчыкаў па справе для прымусовага спагнаньня.

§ 40. Перад тым, як прымаць грошы ў касу, бухгальтар фінансавай часткі раённага выканаўчага камітэту павінен:

а) праверыць ці правільна складзен сьпіс, што далучаецца да выплатнай заявы (§§ 36 і 45), і ці адпавядае ён сумам, паказаным у карэнчыках квітковых кніжак упаўнаважаных, прычым трэба наглядаць затым, каб усе сабраныя ўпаўнаважаным сумы да дня здачы грошай у касу, былі-б цалкам зданы;

б) адзначыць у разрахунковых картках паступленьне сум.

**VI. Парадак прымусовага спагнаньня, сьпісаньня безнадзейных нядоімак і аддачы назад пераплат.**

§ 41. Пасьля зыходу дня, назначанага для канчатковай выплаты платы III тэрміну, фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту ўсю суму недаплат па справе пералічае ў нядоімку, якая павінна спаганяцца, паводле арт. 158 Зямельнага Кодэксу, у бясспрэчным парадку.

*Увага*. Тэрмін пералічэньня недаплат у нядоімку па спыненых справах паказан у § 28 гэтай інструкцыі.

§ 42. Бясспрэчнае спагнаньне нядоімкі платы за земляўпарадкаваньне фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту робіць пасьля выходу 2-х тыдняў ад дня разгляду і зацьверджаньня земляўпарадчага праекту па справе раённаю зямельнаю камісіяю, паводле арт. арт. 171, п. 1, 171, п. 2 Зямельнага Кодэксу.

*Увага*. Абскарджаньне ў вышэйшую інстанцыю пастановы раённай зямельнай камісіі аб разглядзе і зацьверджаньні земляўпарадчага праекту ня прыпыняе бясспрэчнага спагнаньня нядоімкі.

§ 43. Бясспрэчнае спагнаньне нядоімак платы з паасобных двароў паселішча ўскладаецца раённымі выканаўчымі камітэтамі на належныя сельскія саветы, якія і зьяўляюцца адказнымі перад раённымі выканаўчымі камітэтамі і органамі Народнага Камісарыяту Фінансаў за сваечасовае і поўнае спагнаньне і ўнясеньне нядоімак у касы раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 44. Перад тым, як даручаць сельскаму савету спагнаньне нядоімкі ў бясспрэчным парадку, якая лічыцца па тэй ці іншай земляўпарадчай справе, фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту павінна наперад устанавіць дакладны падворны сьпіс нядоімшчыкаў па справе, паводле ф. № 11 (Дадатак № 13), праз вылічэньне рэшты нявыплачаных сум кожным дваром на падставе: канчатковага падворнага разрахунку ўсяе належачай платы (формы № 2 і 5) і падворных сьпісаў упаўнаважаных аб выплачаных імі ў фінансавую частку сумах за кожны двор (§ 36 і § 39).

*Увага*. У графе 2, ф. № 11 прозьвішчы гаспадароў абавязкова запісваюцца ў альфабэтным парадку.

§ 45. Устанавіўшы ў сьпісе ф. № 11, гр. 5, тыя двары па справе, за якімі выявілася нядоімка да прымусовага спагнаньня, фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту групуе такія двары ў асобны сьпіс, паводле ф. № 12 (Дадатак № 14), па якіх і даручае належнаму сельскаму савету рабіць беспасрэднае спагнаньне.

*Увага*. Гэты сьпіс даецца сельскаму савету ў 2-х экзэмплярах, з якіх: адзін пасьля спагнаньня нядоімкі варочаецца сельсаветам у фінансавую частку разам з спагнанымі грашыма і дадаецца ім да выплатной заявы, а другі—застаецца ў сельскім савеце і далучаецца да справы: „Спагнаньне нядоімак платы за земляўпарадкаваньне“.

§ 46. Бясспрэчнае спагнаньне нядоімак платы з паасобных двароў робіцца ў адпаведнасьці з парадкам, устаноўленым Палажэньнем аб спагнаньні падаткаў за 2 кастрычніка 1925 году (З. З. СССР за 1925 г., № 70).

*Увага 1*. Накіроўваць спагнаньне агульнай па справе нядоімкі на маемасьць ўпаўнаважаных не дазваляецца, а такія адказваюць сваёю маёмасьцю толькі за асабістую нядоімку.

*Увага 2*. Распачаўшы спагнаньне, сельскі савет адбірае ад упаўнаважаных карэнчыкі квітковых кніжак (ф. № 7) і разрахунковыя сшыткі (ф. № 8) і, скарыстаўшы іх, далучае да матар‘ялаў сельскага савету аб спагнаньні.

§ 47. Скаргі на няправільныя дзеяньні сельскіх саветаў аб спагнаньні нядоімак падаюцца платнікамі без абмежаваньня тэрміну ў раённы выканаўчы камітэт, які павінен на працягу сямі дзён вынесьці аб ёй пастанову.

§ 48. Скаргі на няправільныя дзеяньні раённых выканаўчых камітэтаў аб спагнаньні нядоімак падаюцца без абмежаваньня тэрміну праз акруговы фінансавы аддзел у акруговы выканаўчы камітэт.

§ 49. І раённыя выканаўчыя камітэты і акруговыя выканаўчыя камітэты маюць права да вырашэньня скаргаў прыпыняць прымусовае спагнаньне.

§ 50. Уся нядоімка або частка яе з прычыны незаможнасьці платнікаў ці безнадзейнасьці спагнаньня сьпісваецца акруговымі фінансавымі аддзеламі на агульных падставах, паводле паказанага вышэй палажэньня аб спагнаньні падатку за 2 кастрычніка 1925 г.

Хадайніцтвы аб сьпісаньні падаюцца ў фінансавую частку раённага выканаўчага камітэту, які накіроўвае іх з сваім заключэньнем у акруговы фінансавы аддзел.

§ 51. Зварот пераплат і сум няправільна залічаных, як даходы ад землеўпарадкаваньня, робіцца фінансаваю часткаю раённага выканаўчага камітэту на падставе абежніку Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР усім акруговым фінансавым аддзелам за 21 красавіка 1928 г. № 1110-8 „Пра дачу раённым выканаўчым камітэтам праў варочаць і залічаць пераплаты па дзяржаўных падатках і непадатковых даходах“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 5).

Аб звароце пераплат і сум няправільна залічаных робіцца адзнака ў адпаведных разрахунковых картках.

*Увага.* Паказаныя правілы звароту пераплат пашыраюцца таксама і на Гомельскую акругу.

### VII. Падлік даходаў і ільгот па землеўпарадкаваньні.

§ 52. На кожную платную для насельніцтва землеўпарадчую справу фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту адначасова з паведамленьнем праз сельскі савет упаўнаважаным для землеўпарадкаваньня (ф. № 1) аб назначэньні тэрміну ўнясеньня платы І тэрміну заводзіць асобную разрахунковую картку, паводле ф. № 10 (Дадатак № 12), запаўняючы зараз-жа графы: 1, 2, 3 і 4 поўнасьцю, а графы 5 і 6 часткова на падставе папярэдняга разрахунку платы, які складаецца і зацьвярджаецца паводле §§ 6-8 і 13 гэтай інструкцыі, пры чым, карткі нумаруюцца па чарзе і на іх вядзецца рэестр, у якім паказваюцца № карткі і назвы паселішча і іншага землякарыстаньня, на якое заведзена картка.

Далейшыя даныя ў разрахунковай картцы адзначаюцца па меры ўстанаўленьня такіх у ходзе работ і па меры паступленьня даходаў.

*Увага 1.* На работы вырабу, выдачы і пасьведчаньня розных зямельных дакумэнтаў, плянаў, выпісаў плянаў, копій з іх і даведак, плата за што поўнасьцю павінна выплачвацца наперад, у фінансавых частках РВК заводзіцца адна агульная разрахунковая картка, у якой запаўняецца толькі графа „8-в“.

*Увага 2.* Калі справа складае дачу разьвярстаньня, то разрахунковая картка заводзіцца асобна на кожнае паселішча і асобнае землякарыстаньне, якія ўключаны ў дачу.

§ 53. Разрахунковая картка ёсьць асабісты рахунак па разрахунках дзяржавы з тым ці іншым землякарыстальнікам па плаце за землеўпарадкаваньне, чаму трэба дакладна, поўна і сваечасова рабіць запісы аб усіх зьменах становішча разрахункаў.

§ 54. Падлік паступлесньняў і зварот пераплат даходаў ад земляўпарадкаваньня ў фінансавых частках раённых выканаўчых камітэтаў робіцца:

а) па агульнай касавай кнізе раённага выканаўчага камітэту, прадугледжанай інструкцыяю аб рахункаводстве і справаздачнасьці за 2 верасьня 1926 г., і

б) па паказаных вышэй разрахунковых картках (ф. № 10).

§ 55. Сыстэматычна і не пазьней 5 дня кожнага месяца фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту складае зборную картку паводле формы № 13 (Дадатак № 15), на падставе зробленых запісаў у разрахунковых картках (ф. № 10) за мінулы месяц, наступным парадкам:

а) у графе 1—сумы платы чарговых тэрмінаў, якія паступілі ў касу *за мінулы месяц*, паводле даных граф: 8а, 8б і 8в разрахунковых картак;

б) у графе 2—сумы нядоімка якія паступілі ў касу *за мінулы месяц*, паводле даных графы 8г разрахунковых картак;

в) у графе 3—разам-паводле граф 1 і 2 данай карткі;

г) у графе 4—сумы аддадзеных пераплат з касы *за мінулы месяц*—паводле даных графы 9а разрахунковых картак;

д) у графе 5—сумы сьпісаных безнадзейных нядоімак *за мінулы месяц*—паводле даных графы 9б разрахунковых картак;

е) у графе 6—сумы платы чарговых тэрмінаў з зышоўшым тэрмінам, якія засталіся неспаганымі *на 1 дзень новага месяца.*—Бярэцца, як рэшта паміж сумамі графы 6 і агульнымі сумамі спачатку апярацый паводле граф: 8а, 8б і 8в разрахунковых картак, выключаючы агульную картку, паказаную ва ўвазе 1 да § 52 інструкцыі;

ж) у графе 7—сумы нядоімак, якія засталіся неспагнанымі *на 1 дзень новага месяца.*—Бярэцца, як рэшта паміж сумамі графы 7 і агульнымі сумамі спачатку апярацый паводле граф 8г і 9б разрахунковых картак;

з) у графе 8—разам-паводле граф 6 і 7 данай карткі.

*Увага 1.* Карткі, у якіх закончаны разрахункі на пачатак справаздачнага месяцу, у зварот не ўключаюцца.

*Увага 2.* Падлічаючы сумы, для граф 6 і 7 гэтай формы трэба праверыць асабліва ўважліва, ці зроблены ўсе адзнакі аб надышоўшых тэрмінах чарговай платы ў графе 6 разрахунковых картак і ці зроблены ўсе пералічэньні ў нядоімку недаплат платы па справах, якія ўжо зацьверджаны раённаю зямельнаю камісіяю, у графе 7 разрахунковых картак.

§ 56. На кожнае 1-е студзеня, 1-е красавіка, 1-е ліпеня і 1-е кастрычніка кожнага году (г. зн. пакwартальна) і не пазьней 5-ці дзён пасьля зыходу кожнага тэрміну фінансавая частка раённага выканаўчага камітэту падае ў акруговы фінансавы аддзел копію зборнай карткі ф. № 13, якая зьяўляецца квартальнаю справаздачаю.

§ 57. Акруговы фінансавы аддзел паказаныя параённыя зборныя карткі ф. № 13 групуе ў акруговую паводле тае самае формы і падае такую да 10 дня наступнага за справаздачным кварталам месяца ў Падатковае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў. Прычым, да сумы параённых зборных картак паступлсньня даходаў акруговы фінансавы аддзел павінен дабаўляць асобна (у гр. гр. 1 і 3 ф. № 13) сумы даходаў, якія паступілі беспасрэдна ў канторы, аддзяленьні, або агэнцтвы Дзяржаўнага Банку, паводле ўвагі 2 да § 4 і ўвагі 2 да § 7 гэтай інструкцыі.

*Увага.* Каб адбіць на балянсе акругавага зямельнага аддзелу становішча запазычанасьці па даходах ад земляўпарадкаваньня

на канец кожнага справаздачнага году, акруговы фінансавы аддзел, адначасова з падачаю зборнай карткі ф. № 13 за IV квартал у Падатковае Кіраўніцтва, копію такой накіроўвае ў акруговы зямельны аддзел.

§ 58. Для атрыманьня і сыстэматычнага замацаваньня вынікаў работы зямельных органаў у галіне дачы ільгот насельніцтву па аплаце ў даход скарбу земляўпарадчых і пазямельна рэгістрацыйных работ, ажыцьцяўляецца наступны парадак падліку фактычна дадзеных ільгот за справаздачныя тэрміны:

а) справаздачнымі тэрмінамі для падліку вынікаў устанаўляюцца 1-е красавіка і 1-е кастрычніка кожнага году;

б) пры надыходзе справаздачнага тэрміну (1 красавіка, або 1 кастрычніка кожнага году) зямельная частка раённага выканаўчага камітэту, на падставе пастаноў камісіі аб дачы ільгот кожнаму паселішчу (ф. № 5), складае параённую справаздачную картку, паводле ф. № 14 (Дадатак № 16), і пасылае адзін экзэмпляр яе ў акруговы зямельны аддзел да 10-га красавіка за 1-е паўгодзьдзе і да 10-га кастрычніка за 2-е паўгодзьдзе кожнага году.

Лічбы параённай карткі (ф. № 14) павінны ўключацца ў агульную справаздачу раённага выканаўчага камітэту, як вынікі работы яго за справаздачны пэрыяд у галіне работы сярод беднаты;

в) акруговы зямельны аддзел, атрымаўшы да паказаных вышэй тэрмінаў параённыя карткі вынікаў (ф. № 14), падагульвае вынікі па акрузе, паводле тае самой формы № 14, і адзін экзэмпляр паакруговай карткі пасылае ў Народны Камісарыят Земляробства да 20 мая і 20 лістапада кожнага году.

Лічбы паакруговай карткі (ф. № 14) павінны ўключацца ў агульную гадовую справаздачу акруговага зямельнага аддзелу па частцы земляўпарадчых мерапрыемству;

г) сума паакруговых картак (ф. № 14) дае вынікі работы зямельных органаў па Рэспубліцы, якія ўключаюцца ў агульную справаздачу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

§ 59. Гэтая інструкцыя ўваходзіць у сілу з 1-га студзеня 1929 г. і з часу выданьня яе трацяць сваю сілу наступныя інструкцыі:

а) інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробсва і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР „Аб парадку спагнаньня, захаваньня і залічэньня ў даход скарбу сум, якія паступаюць за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы з 1-га кастрычніка 1926 году, а таксама аб парадку ліквідаваньня спэцыяльных сродкаў Народнага Камісарыяту Земляробства БССР па земляўпарадкаваньні за мінулыя гады“ за 15 сьнежня 1927 г. (Бюлетэнь СНК БССР за 1927 г., № 18.);

б) інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства БССР „Пра парадак дачы ільгот па аплаце земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ“ за 18-га красавіка 1928 года (Бюлетэнь СНК БССР за 1928 г., № 5.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

15 сьнежня 1928 г.

*Дадатак 1 (да § 5 інструкцыі).*

**Выпіс з пратаколу № 6 пасяджэньня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 7 сакавіка 1927 г.**

1. Устанавіць наступныя стаўкі платы, якая бярэцца за выкананьне земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ з разрахунку *за 1 гэктар плошчы* (арт. арт. 158—160 Зям. Кодэксу):

а) за адвод зямель, якія аддаюцца ў карыстаньне дзяржаўным, грамадзкім і іншым арганізацыям, установам і прадпрыемствам, а таксама горадом і мястэчкам—1 р. 10 к.;

б) за земляўпарадчыя работы для арганізацыі пасёлкаў пры ўнутрыпаселішчным земляўпарадкаваньні з падзелам на палі і шырокія паласы і для адводу хутароў і адрубоў—2 р. 20 к.;

в) зьнішчэньне знадворнай цераспалосіцы і іншых дэфэктаў землякарыстаньня пры міжпасёлішчным земляўпарадкаваньні—1 р. 30 к.;

г) за праектаваньне падзелу на палі, калі ёсьць гатовы плян, і перанясеньне праекту ў натуру—35 к.;

д) за нарэзку палос у вёсках і пасёлках, якія земляўпарадкаваны раней—95 к.;

е) за выкананьне работ для пераходу да шырокапалосіцы—1 р. 75 к.;

ж) за адвод зямель з падзелам на палі камунам, арцелям, таварыствам і для калектыўнай апрацоўкі—1 р. 10 к.;

з) за афармленьне існуючых землякарыстаньняў, якія не патрабуюць земляўпарадкаваньня, у парадку рэгістрацыі, якое праводзіцца паводле патрабаваньня насельніцтва (арт. 186 Зям. Кодэксу) з выкананьнем толькі патрэбных каморніцкіх работ—90 к.;

і) за работы, якія ня могуць быць падлічаны пагэктарна, такія, як: усялякія абсьледваньні, зямельныя экспэртызы і іншыя—5 руб. за кожны рабочы дзень, уключаючы і час на пераезды;

к) за выдачу паўторных зямельных запісаў па ўсіх відах земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ, а таксама за копіі земляўпарадчых дакумэнтаў бярэцца плата ў залежнасьці ад плошчы паводле наступнай расцэнкі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Да 10 гэктараў | | | | 4 р. — к., | | |
| ад | 10 гэкт. | да 25 гэкт. | за 10 гэкт. | 4 „ — „ | а за аст. па | 10 к. за г. |
| „ | 25 „ | „ 50 „ | „ 25 „ | 5 „ 50 „ | „ „ „ | 9 „ „ „ |
| „ | 50 „ | „ 100 „ | „ 50 „ | 7 „ 74 „ | „ „ „ | 8 „ „ „ |
| „ | 100 „ | „ 200 „ | „ 100 „ | 11 „ 74 „ | „ „ „ | 7 „ „ „ |
| „ | 200 „ | „ 400 „ | „ 200 „ | 18 „ 74 „ | „ „ „ | 6 „ „ „ |
| „ | 400 „ | „ 800 „ | „ 400 „ | 30 „ 74 „ | „ „ „ | 5 „ „ „ |
| „ | 800 „ | „ 1500 „ | „ 800 „ | 50 „ 74 „ | „ „ „ | 4 „ „ „ |
| „ | 1500 „ | „ 3000 „ | „ 1500 „ | 78 „ 74 „ | „ „ „ | 3 „ „ „ |
| „ | 3000 „ | „ 6000 „ | „ 3000 „ | 123 „ 74 „ | „ „ „ | 2 „ „ „ |
| „ | 6000 „ | „ 12000 „ | „ 6000 „ | 183 „ 74 „ | „ „ „ | 1 „ „ „ |
| „ | 12000 „ | „ 25000 „ | „ 12000 „ | 243 „ 74 „ | „ „ „ | 0,5 „ „ „ |
| і свыше | | 25000 „ | „ 25000 „ | 308 „ 74 „ | „ „ „ | 0,25 „ „ „ |

л) за выраб і выдачу часовых дакумэнтаў аб складзе землякарыстаньня без нанясеньня канфігурацыі вучасткаў па справах, якія выкананы ў спрошчаным парадку без прыстасаваньня тэхнічнай інструкцыі для выкананьня каморніцкіх работ па земляўпарадкаваньні, бярэцца плата ў разьмеры 1 р. за поўную і няпоўную старонку друкаванага тэксту.

*Увага 1.* Па справах, якія выкананы паводле ранейшых ставак бярэцца плата паводле гэтай расцэнкі за выдачу і першастковых зямельных запісаў.

*Увага 2.* Грошы, паводле гэтае таксы, бяруцца за копіі плянаў розных масштабаў.

*Увага 3.* За выраб або пасьведчаньне выкапіровак з плянаў акружных меж плата бярэцца па ліку межавых ліній, якія зьмешчаны на выкапіроўцы, лічачы па 20 к. за кожную лінію з дабаўленьнем да агульнай сумы 3 руб. за матар'ялы.

*Увага 4.* За выраб копій з плянаў у паменшаным або павялічаным у параўнаньні з арыгіналам масштабе вызначаная гэтаю таксаю плата бярэцца на паўтары разы болей.

2. Апроч паказанай вышэй у п. п. „а" і „і" арт. 1 платы, з зацікаўленых старон бяруцца асобна грошы на выдаткі за выезды для выкананьня і кантролю работ паводле сапраўднага кошту пераезду ў абодвы канцы і за колькасьць патрэбных выездаў.

3. Вызначаная ў п. п. „а"—„з" арт. 1 пагэктарная стаўка бярэцца па самастойных земляўпарадчых справах на плошчы ад 50 гэктараў і больш. Па справах-жа на плошчы менш 50 гэкт., якія патрабуюць для свайго выкананьня спэцыяльнага выезду земляўпарадчыка на месца работ, плата бярэцца з пасутачнага разрахунку ў разьмеры, паказаным у п. „і" арт. 1-га і ў арт. 2 гэтай пастановы.

4. . . . . . Вызначаная плата за работы, пералічаныя ў п. п. „а"—„ж", арт. 1, у арт. 2 і 3, уносіцца старанамі ў тры тэрміны:

а) у часе падняцьця хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні—30%;

б) пасьля ўключэньня справы ў плян работ для выкананьня—30%;

в) перад паказаньнем земляўпарадчага праекту—іншыя 40%.

*Увага.* За выкананьне зямельнай рэгістрацыі ў дабравольным парадку плата ўносіцца адразу пры заяве, таксама, як і плата, установленая п. п. „і" і „к", арт. 1.

---

*Дадатак 2*
(да § 27 інструкцыі).

## Табліца ацэнкі ў %% ад усяе справы выкананых стадый работ:

| №№ | НАЗВА СТАДЫЙ | Дача разьверстаньня з упарадк.: Да двара | Дача разьверстаньня з упарадк.: Групавым | Разьверстаньне паселішч: На хутары і адрубы | Разьверстаньне паселішч: На пасёлкі да двара | Пераход да шырокапалосіцы (упар. на месцы) | Нарэзка палёў, калі ёсьць гатовы плян | Нарэзка палос, калі ёсьць гатовы плян | Адводы зямель: Гарадом | Адводы зямель: Дзярж. зям. маемасьці | Зямельная рэгістрацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Абсьледваньне хадайніцтваў . . | — | — | — | — | — | — | — | 12 | 8 | |
| 2 | Абход акружнай мяжы, пракладка дыаганальн. ходаў, вылічэньне кардынат і накладка на плян . . . | 6 | 15 | 8 | 7 | 8 | — | — | 24 | 25 | 20 |
| 3 | Вылічэньне агульнай плошчы, здымка сітуацыі і нанясеньне на плян . . . . . . . . . | 20 | 50 | 23 | 21 | 23 | — | — | 53 | 55 | 100 |
| 4 | Зямельная расцэнка, вылічэньне вынікаў і складаньне патрэбных ведамасьцяй. . . . . . . | 30 | 75 | 35 | 31 | 35 | — | — | — | — | |
| 5 | Складаньне праекту межпаселішчнага разьверстаньня і перанясеньня яго ў натуру . . . . . . . | 39 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | |
| 6 | Складаньне земляўпар. праектаў: | | | | | | | | | | |
| | а) разьверст. паселішч на хут. і паселкі . . . . . . . | 49 | | 64 | 45 | — | — | — | — | — | |
| | б) адводу зям. гарадом, ДЗМ і калект. гасп.. . . . . . | — | | — | — | — | — | — | 71 | 68 | |
| | в) па падзелу на палі і адводу сядзіб . . . . . . . | 52 | | — | 52 | 43 | 44 | — | — | — | |
| 7 | Перанясеньне праектаў у натуру: | | | | | | | | | | |
| | а) разьверст. паселішч на хут. і паселкі . . . . . . . | 54 | | 100 | 54 | — | — | — | — | — | |
| | б) адводу зям. гарадом, ДЗМ і калект. гасп.. . . . . . | — | | | — | — | — | — | 100 | 100 | |
| | в) па падзелу на палі і адводу сядзіб . . . . . . . | 56 | | | 56 | 45 | 100 | — | | | |
| 8 | Складаньне праекту падзелу на шырокія поласы і перанясеньне яго ў натуру . . . . . . . . | 100 | | | 100 | 100 | | 100 | | | |

Б. С. С. Р.

*Дадатак 3.*

Форма № 1 да § 8 інстр.
Фармат 210×297.

РАЁННЫ
**ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ.**
„......“ .............. 192 г.

№ ..............

.............................. **Сельскаму Савету.**

Пры гэтым пасылаюцца:

1. Выпіскі пастановы Раённага Выканаўчага Камітэту для выкананьня яе сельскім саветам і падачы аднаго экзэмпляру ўпаўнаважаным паселішча для кіраваньня.

2. Па тры экзэмпляры блянкаў для складаньня папярэдняга сьпісу бядняцкіх гаспадарак паселішчаў, паводле §§ 29—32 інструкцыі НКЗ і НКФ БССР за 15/XII 1928 г. (Бюлетень СНК БССР за 1928 г. № 15(58), з якіх пасьля складаньня—адзін трэба даць упаўнаважанаму паселішча, адзін пакінуць у сельскім савеце для нагляду і адзін вярнуць у РВК для далучэньня да земляўпарадчай справы.

Разрахунковая картка
№ ..............

3. .............. экземпляраў разрахунковых сшыткаў і .............. экзэмпляраў квітковых кніжак для пасьведчаньня іх сельскім саветам і падачы ўпаўнаважанаму паселішча для карыстаньня пры падворным спагнаньні і падліку платы.

Прычым, сельскі савет павінен папярэдзіць упаўнаважаных, што калі імі ня будзе заплачана да паказанага ў пастанове РВК тэрміну плата 1-га тэрміну, дык хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні страціць чарговасьць і ня будзе ўключана у выканаўчы плян работ (земляўпарадкаваньне ня спыніцца*).

Загадчык Зямельнай Часткі РВК .............. (подпіс).

Загадчык Фінансовай Часткі РВК .............. (подпіс).

РАСЬПІСКА: 1. Выпіс з паст. РВК за № ..............
2. Папярэдні сьпіс бядняцк. гасп.
3. Падворн. разьмерк. платы 1-га тэрм.
4. .............. разрахунковых сшыткаў.
5. .............. квітк. кніжак атрымаў, а таксама пра вынікі неўнясеньня платы 1-га тэрміну Сельскі Савет папярэдзіў.

Упаўнаважаны паселішча .............. (подпіс).

*) Калі гэта папярэджаньне пасылаецца для паселішча, якое земляўпарадкоўваецца ў абавязковым парадку, дык словы: „хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні страціць чарговасьць і ня будзе ўключана ў плян работ“ закрэсьліваюцца, а словы: „земляўпарадкаваньне ня спыніцца“ падкрэсьліваюцца.

*Адваротны бок.*

## ВЫПІС

з пратаколу пасяджэньня Прэзыдыуму ............
Раеннага Выканаўчага Камітэту.

за „.........“ .................... 192 г. № ............

| РАЗГЛЯДАЛІ: | ПАСТАНАВІЛІ: |
|---|---|
| | .................... |

Раённы Выканаўчы Камітэт ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Справу аб земляўпарадкаваньні ....................
.................... уключыць у плян работ 192 . . г. да выкананьня *)

2. Папярэдні разрахунак платы за работу да ўнясеньня у даход скарбоў, апрач .........% скідкі платы для бядняцкіх гаспадарак, зацьвердзіць:

| | Належыць гатоўкай усяго | 30% для платы I-га тэрміну | 30% для платы II-га тэрміну |
|---|---|---|---|
| Ад пасел. .......... у суме | ........ р. | ........ р. | ........ р. |
| „ „ .......... „ „ | ........ р. | ........ р. | ........ р. |
| „ „ .......... „ „ | ........ р. | ........ р. | ........ р. |
| „ „ .......... „ „ | ........ р. | ........ р. | ........ р. |

запрапанаваўшы упаўнаважаным паселішча плату 1-га тэрміну ўнесьці да „.......“ .................... 192 г.

3. Запрапанаваць .................... Сельскаму савету на працягу .................... разам з мясцовым камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і ўпаўнаважанымі паселішча скласьці папярэдні сьпіс бядняцкіх двароў паселішча ў межах ..........% усіх двароў, з якіх адразу, пакуль што, не павінна брацца плата (аж да зацьверджаньня РВК канчатковага разрахунку яе па новых зямельных правох двароў), а таксама зрабіць падворнае разьмеркаваньне платы 1-га тэрміну паміж іншымі дварамі паселішча ў залежнасьці ад фактычнага землякарыстаньня кожнага з іх і даць гэты матар'ял упаўнаважаным паселішча для кіраваньня пры спагнаньні платы з паасобных двароў.

З арыгіналам згодна: Справавод зям. часткі РВК (подпіс).

*) Калі земляўпарадкаваньне робіцца ў абавязковым парадку, то ў пункце 1-м у канцы дапісваюцца словы: „у абавязковым парадку“.

*Дадатак 4.*

Форма № 2 да §§ 10, 17 і 18 інстр.
Фармат 210×297.

Разрахунковая картка №

# СЬПІС

гаспадарак вёскі ..................., ..................... Сельскага Савету,
(Назва вёскі) (Назва Сельскага Савету)

якія маюць права на атрыманьне ільгот па аплаце земляўпарадчых работ, складзены Сельскім Саветам на падставе §§ 29-32 інструкцыі НКЗ і НКФ БССР за 15/XII 1928 г. (Бюлетэнь СНК БССР за 1928 г. № 15 (58) і падворны разрахунак платы, якая павінна быць выплачана у даход дзяржавы.

| №№ па чарзе | Прозьвішча, імя і імя па бацьку гаспадара | §§ і п.п. Інструкцыі, на падставе якога не бярэцца плата | Колькі зямлі належыць кожн. гаспадару (гэкт.) у адзінк. сярэдн. кошту па вёсцы (графа 14) падзельнай (разверстальнай) ведамасьці | Кошт работы з кожн. гаспадара паводле таксы | | Сума ільгот паводле пастановы Сельскага Савету | | Сума ільгот, зацьверджаная Раён. Вык. Кам. | | Сума платы з кожнага гаспадара ў даход скарбу | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Руб. | К. | Руб | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | | 7 | | 8 | | 9 |
| | | | | | | | | | | | | |

Б. С. С. Р

*Дадатак 5.*

Форма № 3 да § 15 Інстр.
Фармат 148×210.

РАЁННЫ
**ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ.**

„......“ 192 г.

№ .....................

Пра назначэньне тэрміну ўнясеньня платы II-га тэрміну за земляўпарадкаваньне.

Разрахунковая картка

№ .....................

Грамадзе
Упаўпаважанаму для земляўпарадкаваньня паселішча ..................... Сельскага Савету
(Назва паселішча)
(Назва Сельсавету) (Прозьвішча упаўнаважанага),

Гэтым Раённы Выканаўчы Камітэт паведамляе, што справа аб земляўпарадкаваньні землякарыстаньня Вашай Грамады ўключана ў зацьверджаны плян земляўпарадчых работ раёну і тэрмін прыбыцьця земляўпарадчыка для выкананьня справы ў натуры вызначан „......“..................... 192...... г.

А таму прапануецца да „......“..................... 192...... г. унесьці ў фінансавую частку РВК......руб. ......кап., як плату II-га тэрміну, паводле папярэдняга разрахунку платы, які Вам дадзен пры патрабаваньні платы I-га тэрміну.

Падворнае спагнаньне паказанай сумы Вы павінны рабіць паводле падворнага раскладу, устаноўленага ..................... Сельскім Саветам для платы I-га тэрміну.

Калі ня будзе выплачана да паказанага тэрміну ўстаноўленая вышэй сума, дык Раённы Выканаўчы Камітэт вядзеньне работы ў натуры прыпыняе і адкамандыроўвае земляўпарадчыка для земляўпарадкаваньня іншых паселішч.

Загадчык Фінансавай Часткі РВК.....................(подпіс).

*Дадатак 6.*
Форма № 4 да § 17 інстр.

Фармат 210×297.

У ................................................ **Раённы Выканаўчы Камітэт.**

Пасылаецца на разгляд і канчатковае зацьверджаньне разрахунак платы і ільгот па земляўпарадкаваньні паводле ф.ф. №№ 2 і 4 да §§ 18, 19 і 20 інструкцыі НКЗ і НКФ БССР за 15-XII—1928 г. (Бюлетэнь СНК БССР за 1928 г. № 15(58).

*Земляўпарадчык* ................................................ *(подпіс).*

„..........“ .............................. 192   г.

# АГУЛЬНЫ РАЗРАХУНКОВЫ ЛІСТ

аб плаце, якая павінна быць выплачана і выплачана ў даход скарбу за земляўпарадчыя работы з вёскі ................................................

сельскага савету ................................ раёну ..............................

акругі ................................................

## ТЛУМАЧЭНЬНЕ ДЛЯ КІРАВАНЬНЯ.

1. Гэты ліст складае земляўпарадчык, што выконвае справу, абавязкова для кожнай вёскі, земляўпарадкаваньне якой вядзецца за плату, па меры ўстаноўленьня дакладных даных для разрахунку.

2. Канчатковыя сумы:

а) кошту работ паводле ставак вызначаюцца на падставе канчатковых даных памеру плошчы і відаў работ, якія ў запраўднасьці робяцца.

б) дадзеных ільгот—на падставе папярэдняй пастановы сельсавету паводле §§ 29—32 інструкцыі і

в) выдаткаў на праезд—паводле фактычных выдаткаў выканаўцаў (калі не дадзены бясплатныя падводы).

3. Сумы платы III тэрміну ў канчатковы разрахунак павінны вызначацца да паказаньня земляўпарадчага праекту і паведамляюцца зямляўпарадчыкам упаўнаважанаму ад насельніцтва.

4. Два экзэмпляры канчаткова складзенага разрахунку зараз-жа і не пазьней 2-х тыдняў пасьля складаньня яго і абвяшчэньня насельніцтву зямляўпарадчык пасылае ў РВК, які зацьвярджае яго і сочыць за паступленьнем платы.

5. Земляўпарадчык павінен асабліва дакладна і поўна адзначаць выплачаныя сумы і тыя дакумэнты, паводле якіх выплачаны насельніцтвам (праз упаўнаважаных або беспасрэдна) сумы, бо гэтыя даныя маюць вялікае значэньне.

6. Акруговы земляўпарадчык, прымаючы ад выканаўцаў справы, павінен сачыць за выкананьнем паказанага і сьведчыць выкананьне.

*Другая стар. формы.*

| | Даныя разрахунку | | Сумы да ўнясеньня ў касу НКФ | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | Папярэдния | Канчатковыя | | |
| Агульная плошча земляўпарадчай справы: | | | | |
| Паводле стаўкі ........ р. ..... к. Гэкт. | ........ | | ........ | |
| " " ........ " ..... " " | | | | |
| " " ........ " ..... " " | | | | |
| " " ........ " ..... " " | | | | |
| Разам гэкт. | | | | |
| Агульны кошт работ . Руб. | | | | |
| Зьніжэньне ........ % на ільготнае земляўпарадк. бядн. гаспад. Руб. | | | | |
| Застаецца сума ў даход скарбу Руб. | *) | **) | | |

Выплачваецца ў даход скарбу:

а) Плата I тэрміну ў разьмеры 30% ад сумы ........ *), г. зн., прыблізна, у часе задаваленьня хадайніцтва РВК Руб.

б) Плата II тэрміну ў разьмеры 30% ад сумы ........ *), г. зн., прыблізна, пасьля ўключэньня ў выканаўчы плян работ . . . . . . . . . . . . . . . Руб.

в) Плата III тэрміну:

1. Рэшта платы даходаў паводле ставак, г. зн. да сумы ........ **) руб.

Руб. . .

2. Сума выдаткаў дзяржавы на праезды выканаўцаў на месцы работ, апроч ставак у разьмеры фактычных страт ........................................................................................................................................................................

Руб. . .

Разам платы III тэрміну . . . Руб. .

Усяго павінна быць выплачана . . . Руб. .

*Земляўпарадчык*

*Трэцяя стар. формы.*

**Выплачана насельніцтвам за работы:**

| №№ п/ч. | Назва дакумэнту аб аплаце (якой установы, №) | Дзень, месяц и год выплаты | Выплачаная сума | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. | |
| | | | | | |

*Чацьвертая стар. формы.*

**Абвяшчэньне насельніцтву аб канчатковым разрахунку платы за земляўпарадкаваньне: агульнай і з кожнага двора і сум скідак платы для бядняцкіх двароў.**

Канчатковая сума кошту работ за земляўпарадкаваньне нашага землякарыстаньня з падворным разьмеркаваньнем яе, а таксама сумы скідак платы, устаноўленыя сельскім саветам у парадку ільготнага земляўпарадкаваньня, агульнаму сходу паселішча абвешчаны „..........“ .................................................. 192 г. Пры чым, грамадзяне папярэджаны аб тым, што скаргі на няправільнасьці па дачы ільгот павінны падавацца на працягу 2-х тыдняў з моманту абвяшчэньня ў зямельную частку раённага выканаўчага камітэту.

*Упаўнаважаны для земляўпарадкаваньня*

.................................................. (*подпіс*).

*Земляўпарадчык* .................................................. (*подпіс*).

*Дадатак 7.*

Форма № 5 да § 21 Інстр.
Фармат 210×297.

# ПАСТАНОВА КАМІСІІ .................... РВК

**для разгляду і канчатковага зацьверджаньня сум платы за земляўпарадкаваньне і ільгот па аплаце ў даход дзяржавы земляўпарадчых работ.**

„..............“ .................................. *192* ...... *г. №* ..................

Прысутнічалі: *Старшыня Камісіі* ..........................................

Члены: *Прадстаўнік Раённ. Кам. Сялян. Т-ваў Узаемадап.* ..........................................
..........................................
..........................................

**РАЗГЛЯДАЛІ:**

Агульны і падворны разрахунак платы ў даход скарбу за земляўпарадчыя работы вёскі ..................

..........................................

Сельскага Савету ..................

**Дадатковы матар'ял:**

1. Скаргі гр-н ..................

..........................................

..........................................

..........................................

..........................................

на няправільнасьці, зробленыя Сельскім Саветам у часе складачьня сьпісу.

2. Кантрольная лічба АКРЗА аб разьмеры скідкі на ільготы з платы ў даход скарбу па справе ..................%.

**ПАСТАНАВІЛІ:**

Разглядзеўшы падрабязна ўвесь матар'ял аб падворным разьмеркаваньні платы і правоў на атрыманьне ільгот гр-н вёскі.................. Камісія паводле § 21-га Інструкцыі НКЗ і НКФ за 15/XII 1928 г., пастанаўляе:

1. Суму скідкі на ільготы з платы за работы вёскі .................. зацьвердзіць у разьмеры

..........................................

.......................................... руб. .................. кап.
(словамі)

2. Разьмеркаваньне агульнай сумы скідкі паміж паасобнымі гаспадаркамі зацьвердзіць паводле графы 7 даданага сьпісу падворнага разьмеркаваньня (ф. 2), што дасьць наступнае скарыстаньне фонду па катэгорыях гаспадарак, якія атрымалі ільготы:

| Прыметы, на падставе якіх дадзены ільготы | Зьнята плата па справе | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уся | | | Частка | | | Разам | | |
| | Лік гаспадарак | На суму | | Лік гаспадарак | На суму | | Лік гаспадарак | На суму | |
| | | Руб. | К. | | Руб. | К. | | Руб. | К. |
| Паводле: | | | | | | | | | |
| § 30 п. а інст. | | | | | | | | | |
| § 30 п. б „ | | | | | | | | | |
| § 30 п. в „ | | | | | | | | | |
| § 30 п. г „ | | | | | | | | | |
| § 30 п. д „ | | | | | | | | | |
| § 30 п. е „ | | | | | | | | | |
| § 30 п. ж „ | | | | | | | | | |
| § 31 „ | | | | | | | | | |
| Разам па спр. | | | | | | | | | |

што ад агульнага ліку гаспадарак .................. складае ..........% і ад агульнага кошту работ у суме ..........руб складае ..........% скідкі.

3. Суму платы, якая павінна быць спагнана ў даход дзяржавы з кожнага двара, зацьвердзіць у разьмерах, вызначаных у графе 8-й падворнага разрахунку (ф. № 2), што па ўсяму паселішчу складае .......................................... руб. .......... кап.

4. Адзін экзэмпляр гэтай пастановы з экзэмплярам канчаткова зацьверджанага агульнага і падворнага разрахунку зараз-жа пасласць земляўпарадчыку, які выконвае справу, для далучэньня да справы.

**Старшыня Камісіі РВК**

**Члены:**

Б. С. С. Р.

РАЁННЫ
**Выканаўчы Камітэт.**

„ “ 192 г.

№

Пра назначэньне тэрміну ўнясеньня платы III-га тэрміну і недаплат за земляўпарадкаваньне.

Разрахунковая картка

№

*Дадатак 8.*
Форма № 6 да § 23 інструкцыі.
Фармат 148×210.

**Грамадзе**

**Упаўнаважанаму для земляўпарадкаваньня**

паселішча ........................ сельскага
(назва паселішча)

савету ........................
(назва сельсавету)

........................
(прозьвішча ўпаўнаважанага)

Гэтым Раённы Выканаўчы Камітэт паведамляе, што канчатковая сума платы, якая павінна быць выплачана ў даход дзяржавы гатоўкаю за праведзенае земляўпарадкаваньне зямель Вашай Грамады, зацьверджана ў разьмеры ...... р. ...... к. (прат. камісіі РВК за „ “ 192 г. № ).

Пасьля залічэньня выплачаных Вамі да „ “ 192 г. у рахунак платы сум у разьмеры ...... руб. ...... к. Вы павінны выплаціць яшчэ ...... руб. ...... кап., з якіх: недаплат платы першых двух тэрмінаў ...... руб. ...... к. і платы III-га тэрміну ...... руб. ...... к.

Паказанную нявыплачаную суму платы ...... р. ...... к. прапануецца ўнесьці ў фінансавую частку РВК да „ “ 192 г., г. зн. за 7 дзён да дня, назначанага для паказаньня земляўпарадчага праекту.

Калі ў вызначаны тэрмін грошы ня будуць выплачаны, то ўся недаплата будзе пералічана ў нядоімку, якая будзе спаганяцца ў бясспрэчным парадку, што выкліча для Вас дадатковыя выдаткі.

*Загадчык Фінансавай Часткі РВК*

*(подпіс)*

**Карэнчык квітка №** ...... 192 г.
„ “ ...... р. ...... к.
Ад ......
(прозьв. гаспадара)

Пячатка

*Дадатак 9*
Форма № 7 да § 35 інстр.
Фармат 105×148.

# Квіток №

„ “ 192 г.

Прынята ад ........................
(прозьвішча гаспадара двара)

Руб. ........................ кап. ( ...... р. ...... к.),
(сума руб. словамі)

як плата за земляўпарадкаваньне.

*Упаўнаважаны* ........................ *(подпіс).*

*Дадатак 10.*

Форма № 8 да § 35 інстр.
Фармат 148×210.

# РАЗРАХУНКОВЫ СШЫТАК

для падліку спагнанай платы за земляўпарадкаваньне паселішчэ ..........

..........

..........

.......... сельскага савету.

**РАЗРАХУНКОВАЯ КАРТКА**
**фінансавай часьці РВК №** ..........

1. Даецца Фінчасткаю Р. В. К. (праз сельскі савет) упаўнаважаным кожнага паселішча, якое земляўпарадкоўваецца за плату, пры патрабаваньні платы І тэрміну, разам з квітковымі кніжкамі.

2. Сумы, якія павінны спаганяцца, як плата І-га і ІІ-га тэрміну, запісваюцца на падставе раскладу сельскага савету паводле даручэньня Р. В. К.

3. Сумы, якія спаганяюцца, як плата ІІІ-га тэрміну, запісваюцца на падставе канчатковага разрахунку платы, зацьверджанага Раённым Выканаўчым Камітэтам.

Калі сельскі савет распачынае прымусовае спагнаньне, дык упаўнаважаны падагульвае ўсе выплаты кожнага двара, вызначае, колькі за кожным дваром лічыцца няўнесеных сум, і дае гэтыя даныя сельскаму савету.

*Іншыя старонкі формы.*

## Рахунак гаспадара ...........

Вызначана: платы І-га тэрм ........ Руб. ...... кап.
„ II-га „ ........ „ ...... „
„ III-га „ ........ „ ...... „

УСЯГО ........ „ ...... „

| Выплачана гаспадаром упаўнаважанаму: | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзень і месяц | № квітка | Сума | | Дзень і месяц | № квітка | Сума | | Дзень і месяц | № квітка | Сума | |
| | | Руб. | К. | | | Руб. | К. | | | Руб. | К. |
| 1 | 2 | 3 | | 1 | 2 | 3 | | 1 | 2 | 3 | |
| | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 11.*

Форма № 9 да § 39 інстр.
Фармат 148×210.

| Прынята „ “ ...... 192 г. ...... руб. ...... кап. Прыходны арт. № ...... **Скарбнік** **Бухгальтар** | Выплатная заява ў Фін. частку ...... Раённага Выканаўчага Камітэту. | Адзнака Фінчасткі РВК аб запісаньні ў асабісты рахунак платніка: **Картка №** ...... |
|---|---|---|

Прашу прыняць ............................
(сумма руб. словамі)

............ руб. ...... кап. і залічыць у даход дзяржавы па даходнаму каштарысу Народнага Камісарыяту Землязробства, як плата за земляўпарадкаваньне з двароў паселішча ............, запісаных у дададным да гэтай заявы сьпісе, з паказаньнем сум платы, якая выплачваецца за кожны двор.

Аб прыняцьці грошай прашу выдаць установлены квіток.

„ ...... “ ............ 192 г.

**Упаўнаважаны** ............ **(подпіс).**

Калі выплата робіцца Сельскім саветам у парадку здачы спагнаных нядоімак з таго ці іншага паселішча, дык да заявы павінен дадавацца Сельскім саветам сьпіс паводле формы № 12 да § 45 інстр. Сьпіс гэты застаецца ў фінчасьці РВК.

*Дадатак 12.*
Форма № 10 да § 52 інстр.
Фармат 148×210.

# Разрахунковая картка №

платы ў даход дзяржавы за земляўпарадкаваньне.

1. Паселішча ........ 2. Сельскага Савету ........ Адкрыта „ ........ “ ........ 192 .... г.

3. Упаўнаважаны ........
(прозьвішча, імя і па бацьку)

4. Паштовы адрэс упаўнаважаных ........

5. Разрахунак агульнай платы:

| | Папярэдні | Канчатковы |
|---|---|---|
| Агульны кошт работ . | ........ р. | ........ р. |
| Скідка ільгот .... % . | ........ р. | ........ р. |
| Гатоўка платы ў даход дзяржавы . . . | ........ р. | ........ р. |

6. Тэрміны і разьмеры платы:

| | Тэрміны: | Сума | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. | к. |
| I-га тэрм. | „ .... “ ........ 192 г. | | |
| II-га „ | „ .... “ ........ 192 г. | | |
| III-га „ | „ .... “ ........ 192 г. | | |

7. Вылічэньне нядоімак і пені да прымусовага спагнаньня:

Тэрмін зацьверджаньня праекту Раённаю Зямельнаю Камісіяю:
„ .... “ ........ 192 г.

Тэрмін пералічэньня недаплат у нядоімку:
„ .... “ ........ 192 г.

Наступіла да гэтага дня:
........ руб. ........ кап.

Пералічана ў нядоімку:
........ руб. ........ кап.

Іншыя адзнакі:

| Налічана пені. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Па які дзень | Сума | | Па які дзень | Сума | |
| | Руб. | к. | | Руб. | к. |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |

*Адваротны бок формы.*

8. П А С Т У П І Л А.

| Платы чарговых тэрмінаў. | | | | | | | | | Нядоімак | | | Пені | | | Аддадзеных пераплат | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I-га тэрміну | | | II-га тэрміну | | | III-га тэрміну | | | | | | | | | | | |
| Дата | Сума | | Дата | Сума | | Дата | Сума | | Дата | Сума | | Дата | Сума | | Дата | Сума | |
| Арт. пр. па касе | Руб. | к. | Арт. пр. па касе | Руб. | к. | Арт. пр. па касе | Руб. | к. | Арт. пр. па касе | Руб. | к. | Арт. пр. па касе | Руб. | к. | Арт. пр. па касе | Руб. | к. |
| а | | | б | | | в | | | г | | | д | | | а | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | |

9. С ь п і с а н а.

| | Сума Руб. | к. | |
|---|---|---|---|
| Разам | | | г |
| Пені | | | в |
| Нядоімак | | | б |

| Безнадзейных | Падстава для спісаньня |
|---|---|
| | |

*Дадатак 13.*
Фарма № 11 да § 44 Інстр.
Фармат 210×297.

## СЬПІС
### платнікаў за земляўпарадкаваньне.

Паселішча ..........

Сельскага Савету ..........

**Разрахунковая картка №** ..........

| №№ па чарзе | Прозьвішча гаспадароў (у альфабэтным парадку) | Павінна было быць заплачана ўсяго (гр. 8, форма № 2) | Паступіла ў касу Фін. часткі Р. В. К. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Разам | | Нядоімка | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | | | | | | Р. | К. | Р. | К. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | 5 | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 14.*
Форма № 12 да § 45 Інстр.
Фармат 210×297.

## СЬПІС

**гаспадароў паселішча .........., .......... Сельскага Савету, за якімі лічыцца нядоімка за земляўпарадкаваньне да прымусовага спагнаньня.**

*На „........“ .......... 192... г.*

**Разрахунковая картка №** ..........

| №№ па чарзе | Прозьвішча гаспадароў (у альфабэтн. парадку) | Нядоімка | | Налічана пені | | Разам | | Спагнана Сельскім Саветам | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| 1 | 2 | 3 | | 4 | | 5 | | 6 | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | |

1. Фін. частка РВК, прапануючы Сельскаму Савету зрабіць спагнаньне ў прымусовым парадку, дае ямудва экзэмпляры гэтага сьпісу.

2. Сельскі Савет, выплачваючы ў Фін. частку РВК спагнаныя сумы нядоімак, абавязкова дадае да выплатнай заявы 1 экзэм. гэтага сьпісу з паказаньнем з якога двара і якая сума спагнана. Другі экзэм. застаецца ў справах Сельскага Савету.

*Дадатак 15.*
Форма № 13 да § 55 інстр.
Фармат 148×210.

# Зборная картка за 192 ...... г.

месячных зваротаў аб паступленьнях і сьпісаньнях даходаў земляўпарадкаваньня і аб становішчы неспагнаных даходаў, тэрмін платы якіх зышоў.

> Фін. частка РВК на кожнае I/X, I/I, I/IV і I/VII і не пазьней 5-ці дзён пасьля зыходу гэтых тэрмінаў копію данай карткі падае ў Акруговы Фінансавы Аддзел.

.............................**Раённага Выканаўчага Камітэту.**

| На справаздачныя тэрміны | Засталося не спагнаных | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плата чарговых тэрмінаў | | Нядоімак | | Пені | | РАЗАМ | |
| | Гр. 6 мінус гр-ы (8а+8б+8в) | | Гр. 7 мінус гр-ы (8г+9б) | | Гр. 7 мінус гр-ы (8д−9в) | | | |
| | 6 | | 7 | | 7[1] | | 8 | |
| | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. |
| На 1 кастрычніка . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 лістапада . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 сьнежня . . . . . | | | | | | | | |
| На 1 студзеня . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 лютага . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 сакавіка . . . . | | | | | | | | |
| На 1 красавіка . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 мая . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 чэрвеня . . . . | | | | | | | | |
| На 1 ліпеня . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 жніўня . . . . | | | | | | | | |
| „ 1 верасьня. . . . | | | | | | | | |
| На 1 кастрычніка наступ. году. | | | | | | | | |

Адваротны бок карткі.

| Справаздачныя пэрыяды | Паступіла | | | | | | | | Сьпісана | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Платы чарговых тэрмінаў | | Нядоімак | | Пені | | РАЗАМ | | Аддадзеных пераплат | | Безнадзейных нядоімак | | Пені | |
| Графы разрахун картак | Графы 8а, 8б, 8в | | Графа 8г | | Графа 8д | | | | Графа 9а | | Графа 9б | | Графа 9в | |
| | 1 | | 2 | | $2^1$ | | 3 | | 4 | | 5 | | $5^1$ | |
| | Руб. | к. | Руб. | к. | Руб. | к. | Руб. | к. | Руб. | к. | Руб. | к. | Руб. | к. |
| За кастрычнік. | | | | | | | | | | | | | | |
| „ лістапад . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ сьнежань . | | | | | | | | | | | | | | |
| Разам за I кв. | | | | | | | | | | | | | | |
| За студзень . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ люты „ . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ сакавік . . | | | | | | | | | | | | | | |
| Разам за II кв. | | | | | | | | | | | | | | |
| За красавік. . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ май . . . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ чэрвень. . | | | | | | | | | | | | | | |
| Разам за III кв. | | | | | | | | | | | | | | |
| За ліпень . . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ жнівень. . | | | | | | | | | | | | | | |
| „ верасень . | | | | | | | | | | | | | | |
| Разам за IV кв. | | | | | | | | | | | | | | |
| Усяго за год . | | | | | | | | | | | | | | |

*Дадатак 16.*
Форма № 14 да § інстр.

# СПРАВАЗДАЧНАЯ КАРТКА

**дадзеных ільгот па аплаце ў даход дзяржавы землеупарадчых работ**

Раённага Выканаўчага Камітэту / Акруговага Зямельнага Аддзелу

За першае / другое паўгодзьдзе 192...... г.

| §§ і п. п. інструкцыі, паводле якіх дадзены ільготы | Зьнята плата ў раёне / акрузе | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уся | | | Частка | | | Разам | | |
| | Лік гаспадарак | На суму Руб. | На суму К. | Лік гаспадарак | На суму Руб. | На суму К. | Лік гаспадарак | На суму Руб. | На суму К. |
| Паводле § §: | | | | | | | | | |
| § 30, п. „а“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „б“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „в“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „г“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „д“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „е“ . . . | | | | | | | | | |
| § 30, п. „ж“ . . . | | | | | | | | | |
| § 31, . . . . . . | | | | | | | | | |
| Разам у раёне / акрузе . . | | | | | | | | | |

Ад агульнага ліку гаспадарак .......... зьнята плата з .......... , або .......... проц.

Ад агульнага кошту работ .......... руб. дадзена ільгот .......... руб., або .......... проц.

*Загадчык* Зямельнай часткі Раён. Вык. Кам. / Акруг. Зямельнага Аддзелу (подпіс)

Адваротны бок.

Месца для маркі

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Каму* ...................................................................................

...........................................................................................

*Куды* ...................................................................................

...........................................................................................

## ДЛЯ АДЗНАК

...........................................................................................

(прычыны непаўнаты дадзеных зьвестак, калі яны будуць дадзены дадаткова, і інш. адзнакі).

...........................................................................................

...........................................................................................

...........................................................................................

...........................................................................................

...........................................................................................

...........................................................................................

№ ____________

„.........." .................... 192   г.

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра парадак перадачы фін. часткам РВК запазычанасьці за земляўпарадчыя работы.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам, Акруговым Фінансавым Аддзелам і Раённым Выканаўчым Камітэтам.*

У сувязі з выданьнем інструкцыі НКЗ і НКФ БССР за 15/XII-1928 г. пра парадак спагнаньня і залічэньньня ў даход скарбу платы за земляўпарадкаваньне, усім акруговым зямельным аддзелам трэба перадаць фінансавым часткам раённых выканаўчых камітэтаў разрахункі акруговых зямельных аддзелаў з насельніцтвам за земляўпарадчыя работы.

Для ўстанаўленьня плянавасьці і аднолькавасьці перадачы гэтых разрахункаў, прапануецца ўсім акруговым зямельнным аддзелам кіравацца наступным:

1. У фінансавыя часткі раённых выканаўчых камітэтаў для далейшае рэалізацыі і падліку ў новым парадку павінна быць перададзена ўся неліквідаваная запазычанасьць насельніцтва за земляўпарадчыя работы, незалежна ад часу ўтварэньня яе, апроч паказанай у арт. 8 гэтага абежніку.

2. Перадача павінна быць зроблена як можна хутчэй і не пазьней, як да 1 красавіка 1929 году.

3. Матар'ял для здачы трэба групаваць такім парадкам, каб у першую чаргу перадаць разрахункі па скончаных і няскончаных справах палявога пэрыяду 1928 году і пасьля запазычанасьць па справах 1927 году і г. д.

4. Запазычанасьць кожнага паселішча і іншага землякарыстаньня ў справе павінна перадавацца абавязкова праз складаньне разрахунковай карткі паводле формы № 10 вышэйпаказанай інструкцыі, не паказваючы чарговага №, пры чым, графы 6 і 7 запаўняюцца на падставе прынцыпаў гэтай новай інструкцыі, г. зн. налічэньне даходаў робіцца пасьля зыходу тэрміну чарговай платы, а пералічэньне недаплат платы ў нядоімку—пасьля зыходу дня, назначанага для ўнясеньня платы III-га тэрміну. Адкуль, па ўсіх справах, па якіх да 1-га студзеня 1929 году зроблена паказаньне земляўпарадчага праекту, уся недаплата платы (сальдо) павінна лічыцца нядоімкаю і паказвацца ў картках у гр. 7. Калі-ж праект яшчэ не паказан, дык недаплата платы I-га і II-га тэрмінаў (сальдо) адзначаюцца ў гр. 6.

5. Да нядоімачных картак паселішч і іншых землякарыстаньняў, па якіх паказан земляўпарадчы праект, незалежна ад таго, якога пляну работ гэтая справа, павінны дадавацца:

а) агульны разрахунак канчатковай платы (ф. № 4 новай інструкцыі): якая належыць канчаткова, паступіла (з паказаньнем калі, паводле якога дакуманту і куды), сьпісана, як ільготы, і сальдо ў нядоімцы (якое павінна раўняцца суме нядоімкі, паказанай у картцы);

б) падворнае разьмеркаваньне агульнай платы пэміж дварамі і іншымі землякарыстальнікамі (ф. № 2 новай інструкцыі) і

в) зацьверджаныя падворныя сьпісы дадзеных скідак платы беднацкім гаспадаркам для данага паселішча ў парадку ільготнага земля-

ўпарадкаваньня (калі такіх у АКРЗА няма, то трэба дакладна адзначыць—дзе такі фінансавая частка РВК павінна атрымаць).

6. Да картак запазычанасьці паселішч і іншых землякарыстаньняў, па якіх земляўпарадчы праект яшчэ не паказан, але ёсьць складзеныя падзельныя (разьвёрстачныя) ведамасьці з устанаўленьнем новых зямельных праў кожнага двара, павінны дадавацца тыя-ж даныя, як і ў папярэднім артыкуле 5. Калі зацьверджаньне ільгот у гэтым выпадку яшчэ не аформлена праз камісію РВК, дык гэтае афармленьне і далейшая рэалізацыя разрахунку робіцца паводле новага парадку.

7. Да картак запазычанасьці паселішч і іншых землякарыстаньняў, па якіх земляўпарадчы праект не паказан і няма яшчэ дакладных даных аб новых зямельных правох кожнага двара, павінна дадавацца: *агульны разрахунак платы—якая належыць* паводле папярэдніх даных, *намечана* да скідкі на ільготы, *паступіла* (з паказаньнем—калі, паводле якога дакумэнту і куды) і *сальдо запазычанасьці* платы першых двух тэрмінаў, якое павінна раўняцца суме запазычанасьці, паказанай па графе 6 карткі.

8. З прычыны немэтазгоднасьці перадачы заведама нерэальных нядоімак акруговыя зямельныя аддзелы павінны вылучыць іх у асобную групу і ўвайсьці ў акруговы фінансавы аддзел з хадайніцтвам аб сьпісаньні такіх з рахункаў насельніцтва.

Раённыя выканаўчыя камітэты, атрымаўшы ад акруговых зямельных аддзелаў перадатачныя матар'ялы, павінны:

а) кожнай перадатачнай разрахункавай картцы даць адпаведны свой чарговы №, з якім яна павінна лічыцца ў далейшым паводле новай сыстэмы падліку, запісаць іх у рэестр;

б) зараз-жа ужыць захады, праз належны сельскі савет, да высьвятленьня дакладнасьці пераданых сум нядоімак, праз запатрабаваньне ад упаўнаважаных паселішч зьвестак аб выплачаных сумах і параўнаньне з паказанымі ў разрахунках АКЗРА, і спагнаньня такіх у бяспрэчным парадку;

в) калі паказаная АКРЗА нядоімка ў працэсе высьвятленьня зьявіцца несапраўднай і насельніцтва пакажа дакумэнт, які будзе сьведчыць аб выплаце ўсяе яе, або часткі яе, дык сельсавет павінен скласьці пра гэта акт, дакладна паказаўшы №, дату, суму і ўстанову, куды ўнесены грошы для выплаты гэтай нядоімкі, а раённы выканаўчы камітэт, на падставе гэтага акту, выносіць пастанову пра сьпісаньне з рахунку данага паселішча несапраўднай нядоімкі. Фінансавая частка праводзіць сьпісаньне гэтай сумы ў гр. 9-б разрахунковых картак (ф. № 10). І наадварот, калі выявіцца, што паводле разрахунку АКРЗА данаму паселішчу няправільна залічаны сумы, як выплачаныя, дык сельскі савет таксама адзначае гэта актам, раённы выканаўчы камітэт выносіць пастанову пра дадатковае налічэньне на гэтую суму нядоімак для данага паселішча і фінчастка адазначае ў гр. 7 разрахунковых картак

Нам. Народнага Камісара Земляробства *К. Масюкоў.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў *Л. Бунін.*

19 сьнежня 1928 г.
№ 4033.

---

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў, Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

**пра перадачу фінансавым органам канфіскаванай маемасьці.**

*Усім судовым установам, адміністрацыйным аддзелам акруговых выканаўчых камітэтаў і акруговым фінансавым аддзелам.*

Каб урэгуляваць парадак перадачы дзяржаве канфіскаванае, адмерлай і нічые маемасьці (п. 9 пастановы ЦВК і СНК СССР за 28 мая 1927 г.—З. З. СССР 1928 г. № 32, арт. 323), Народныя Камісарыяты Фінансаў, Юстыцыі і Унутраных Спраў БССР прапануюць наступнае:

1. Судовыя і адміністрацыйныя органы, выносячы прысуды ці пастановы аб канфіскацыі маемасьці, павінны ўжываць захады забясьпекі супроць утаеньня тае маемасьці, якая павінна быць канфіскавана, у паасобку аб канфіскацыі немуніцыпалізаваных і дэмуніцыпалізаваных жылых будынкаў, а таксама праў на забудоўку, павінны паведамляць натарыяльныя канторы для накладаньня арышту на гэтую маемасьць.

2. Адначасова з прыняцьцем аховы маемасьці судовыя і адміністрацыйныя органы паведамляюць мясцовыя акруговыя фінансавыя аддзелы аб прысылцы прадстаўніка для прыняцьця канфіскаванай маемасьці.

3. Канфіскаваная маемасьць прымаецца акруговымі фінансавымі аддзеламі паводле акту, да якога дадаюцца:

а) падрабязны сьпіс маемасьці з ацэнкаю яе, калі такая ўжо зроблена;

б) расьпіска аб прыняцьці на захаваньне маемасьці асобаю, якой гэтая маемасьць была аддадзена да моманту перадачы маемасьці акруговаму фінансаваму аддзелу.

4. Акт складаецца ў 2-х экз. і падпісваецца стараной, якая здае, а таксама стараною, якая прымае маемасьць. Адзін экзэмпляр акту пакідаецца ва ўстанове, якая здае маемасьць, а другі перадаецца акруговаму фінансаваму аддзелу.

Пералічаная ніжэй маемасьць судовымі ці адміністрацыйнымі органамі не перадаецца акруговым фінансавым аддзелам, а рэалізуецца наступным парадкам.

5. Маемасьць сялянскіх двароў перадаецца органамі, якія яе канфіскавалі, прызналі адмерлаю ці нічыёю дармова ва ўласнасьць сялянскіх таварystваў узаемадапамогі (арт. 8 паст. ЦВК і СНК СССР за 28-V—1927 г.)

6. Гарадзкія будынкі (у акруговых гарадох і гарадзкіх паселішчах), якія могуць быць скарыстаны на беспасрэднае прызначэньне, органамі, што канфіскавалі гэтыя будынкі, ці прызналі іх адмерлымі, ці нічымі, перадаюцца дармова мясцовым органам камунальнай гаспадаркі акруговых ці раённых выканаўчых камітэтаў (арт. 8 паст. ЦВК і СНК СССР за 28 мая 1927 г.), прычым будынкі, прызнаныя нягоднымі для беспасрэднага скарыстаньня, перадаюцца акруговым фінансавым аддзелам паводле п. 3 гэтага абежніку.

7. Канфіскаваная, адмерлая і нічыя маемасьць, што хутка псуецца, перадаецца без таргоў органамі, якія канфіскавалі ці прызналі адмерлаю, беспасрэдна адпаведным прадпрыемствам і арганізацыям (напр., каапэрацыйным) па цэнах, якія існуюць у месцы і ў час перадачы маемасьці.

Пры гэтым, калі паказаную маемасьць ня можна будзе рэалізаваць, дык яна як найхутчэй прадаецца з таргоў. Калі, ня гледзячы на ўсе

ўжытыя захады, прадметы сапсуюцца і страцяць усякую каштоўнасьць, дык яны павінны зьнішчацца, аб чым складаецца акт.

У выпадках, паказаных у п. п. 5, 6 і 7 гэтага абежніку, запрашаюцца прадстаўнікі мясцовых акруговых фінансавых аддзелаў. Акт перадачы маемасьці складаецца ў 3-х экз., з якіх адзін пакідаецца ва ўстанове, якая робіць рэалізацыю, другі—у купца, а трэці—пасылаецца ў фінансавы аддзел.

7. Драўніна і лясныя матар'ялы, канфіскаваныя пры самавольных парубках, ідуць, паводле інструкцыі НКЗ, НКФ, НКЮ, НКПрацы і НКСЗабясьпечаньня БССР (З. З. БССР за 10-IX-24 г.) у распараджэньне таго лясьніцтва, на тэрыторыі якога зроблены парубкі.

8. Выданыя без належнага дазволу і таму канфіскаваныя навуковыя падручнікі, якія могуць быць скарыстаны ў школах, павінны дармова перадавацца органамі, што іх канфіскавалі, органам Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, аб чым паведамляецца мясцовы фінансавы аддзел.

Народны Камісар Фінасаў БССР *В. Мікуліч.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР
*Я. Кроль.*

20 лістапада 1928 г.
№ 32305—3.

---

## 14. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР пра парадак правядзеньня самаабкладаньня ў 1928—29 годзе.

### I. Агульныя правілы.

§ 1. Абавязковае для ўсіх грамадзян данага паселішча самаабкладаньне можа ўстанаўляцца ў сельскіх мясцовасьцях, мястэчках і сельскіх саветах гарадзкой мяжы.

§ 2. Самаабкладаньне дазваляецца на наступныя гаспадарчыя, культурна-асьветныя, санітарныя і дабрабытныя патрэбы насельніцтва паасобных паселішчаў, а таксама двух або некалькіх паселішч, аб'ядналых адным або рознымі сельскімі саветамі:

а) на арганізацыю, утрыманьне і абслугоўваньне (будаваньне новых, дабудаваньне няскончаных, пашырэньне, найманьне, капітальны і бягучы рамонт будынкаў, абсталяваньне, апал і асьвятленьне) гаспадарчых, культурна-асьветных і санітарных ўстаноў мясцовага грамадзкага значэньня: школ, хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, дзіцячых дамоў, ясьляў і пляцовак, больніц, доктарскіх, фэльчарскіх, вэтэрынарных і агранамічных пунктаў, дамоў для інвалідаў і для састарэлых, начлежных дамоў, лазьняў і хлеба-запасных магазынаў;

б) на ўпарадкаваньне паселішчаў: капаньне і ўтрыманьне ў парадку студняў, грамадзкіх саджалак, пляцоў, магільнікаў для здохлай жывёлы, плошчаў грамадзкага карыстаньня (выганаў, лугоў), а таксама на ўтрыманьне начных і палявых вартаўнікоў;

в) на правядзеньне новых, утрыманьне і рамонт існуючых дарог, мастоў, грэбляў, пераправаў і перавозаў, што маюць мясцовае грамадзкае значэньне;

г) на супроцьпажарныя мерапрыемствы: будаваньне, капітальны і бягучы рамонт і гаспадарчае ўтрыманьне пажарных дэпо і хлявоў,

на набыцьцё і ўтрыманьне супроцьпажарных машын і прылад, на ўтрыманьне пажарных вартаўнікоў;

д) на ўтрыманьне лясьнікоў і на лесакультурныя работы ў лясох мясцовага значэньня.

§ 3. Забараняецца ўстанаўляць самаабкладаньне на патрэбы адміністрацыйнага характару (аплата работнікаў мясцовых органаў улады: раённага выканаўчага камітэту, сельскага савету, міліцыі, сельскіх выканаўцаў і інш., утрыманьне і абсталяваньне для іх памяшканьняў, канцылярскія, разьездныя і іншыя выдаткі), а таксама аплачваць з гэтых сродкаў працу службовых асоб, зьвязаную з правядзеньнем самаабкладаньня.

§ 4. Агульны разьмер самаабкладаньня ў кожным паселішчы ня можа перавышаць вызначанага паводле дырэктыў СНК БССР гранічнага % ад тых сум сельска-гаспадарчага і падаходнага падаткаў 1928—29 году (з набаўкаю да апошняга ў мясцовыя сродкі), якія належаць з усіх грамадзян данага паселішча, апроч скідак і ільгот, зробленых на час самаабкладаньня.

> Прыклад. Гранічны разьмер самаабкладаньня вызначан у 25% сумы сельска-гаспадарчага і падаходнага падаткаў. У даным паселішчы было налічана: сельска-гаспадарчага падатку—1.000 р., падаходнага падатку (з набаўкаю ў мясцовыя сродкі)—300 руб. На час самаабкладаньня было зьнята па розных скідках і ільготах: сельска-гаспадарчага падатку—200 р., падаходнага падатку—100 р., і, такім чынам, павінна быць выплачана 1.000 р. абодвых падаткаў. Самаабкладаньне ў такім паселішчы ня можа перавышаць 250 руб.

§ 5. Самаабкладаньне дазваляецца ў форме грашовых і натуральных узносаў і працоўнага ўдзелу, а таксама ў мяшанай форме (часткаю грашмі або натурай, а часткаю працоўным удзелам). Але ў кожным разе агульны разьмер самаабкладаньня вызначаецца ў грашовай форме, для чаго загадзя падлічаецца кошт натуральнай і працоўнай частак.

§ 6. Натуральныя ўносы самаабкладаньня (напрыклад, збожжа, будаўнічыя матар'ялы) дазваляюцца толькі ў выключных выпадках і з тэю абавязковаю ўмоваю, што іх можна або неадкладна рэалізаваць на грошы, або скарыстаць на мэты самаабкладаньня (напрыклад, будаўнічыя матар'ялы на будаваньне школ). Прадукты, што хутка псуюцца, як уносы самаабкладаньня, не павінны брацца.

§ 7. Працоўны ўдзел у самаабкладаньні дазваляецца толькі тады, калі ён можа быць скарыстаны беспасрэдна на мэты самаабкладаньня (напрыклад, падвоз будаўнічых матар'ялаў на будаваньне школы). Гаспадаркі, з якіх не бярэцца сельска-гаспадарчы падатак, як з незаможных, выконваюць самаабкладаньне ў працоўнай форме, а грашмі толькі тады, калі яны самі гэтага захочуць.

## II. Парадак устанаўленьня самаабкладаньня.

§ 8. Пытаньне аб устанаўленьні самаабкладаньня могуць падымаць: грамадзкія арганізацыі, групы грамадзян, паасобныя грамадзяне, сельскія (местачковыя) саветы і (калі падымаецца пытаньне аб самаабкладаньні на агульныя патрэбы паселішчаў з розных сельскіх саветаў) раённыя выканаўчыя камітэты.

§ 9. У кожным разе сельскі (местачковы) савет павінен дасканала абмеркаваць: 1) наколькі запрапанаваныя мэты самаабкладаньня

патрэбны ў данай мясцовасьці і карысны для насельніцтва; 2) ці можна іх выканаць з тымі тэхнічнымі прыладамі, матар'яламі і іншымі рэчамі, якія ёсьць; 3) ці хопіць на гэтыя мэты вызначаных сум самаабкладаньня. Толькі пасьля абмеркаваньня прапанова аб самаабкладаньні ставіцца на вырашэньне чарговага або спэцыяльнага агульнага сходу.

*Увага.* Калі на самаабкладаньне прапануецца якое-небудзь складанае мерапрыемства (напрыклад, будаваньне школы), дык сельскі (местачковы) савет павінен скласьці папярэдні каштарыс гэтага мерапрыемства і далажыць яго агульнаму сходу. Раённыя выканаўчыя камітэты павінны дапамагаць сельскім (местачковым) саветам у справе складаньня гэтых каштарысаў, а па найбольш складаных мерапрыемствах даручаць гэта сваім тэхнічным працаўнікам.

§ 10. Пытаньні самаабкладаньня вырашаюцца агульным сходам грамадзян данага паселішча. Для правадзейнасьці агульнага сходу, што вырашае пытаньні самаабкладаньня, патрэбна прысутнасьць ня менш палавіны агульнага ліку грамадзян, якія маюць выбарныя правы. Калі, з прычыны невыкананьня гэтай умовы, першы сход не адбыўся, дык не пазьней, як праз тыдзень, склікаецца другі агульны сход. Для правадзейнасьці гэтага і наступных сходаў, што вырашаюць пытаньні самаабкладаньня, патрэбна прысутнасьць ня менш 1/3 грамадзян, якія маюць выбарныя правы.

*Увага.* Асобы, пазбаўленыя выбарных правоў, маюць права прысутнічаць на агульным сходзе, але не галасуюць і не бяруцца пад увагу пры вызначэньні правадзейнасьці сходу.

§ 11. Усе пытаньні самаабкладаньня вырашаюцца на агульным сходзе простаю большасьцю галасоў грамадзян, якія маюць выбарныя правы.

§ 12. У пратаколе агульнага сходу абавязкова запісваюцца: а) агульная лічба грамадзян данага паселішча, якія маюць выбарныя правы, б) колькі з іх прысутнічала на сходзе, в) колькі галасавала за і супроць.

§ 13. Агульны сход павінен вырашыць наступныя пытаньні: а) мэты самаабкладаньня, б) агульны разьмер яго ў грашовай форме, в) форма самаабкладаньня (грашмі ці натураю, ці працаю, ці мяшанаю формаю), г) гранічны тэрмін уносаў самаабкладаньня. Гэты гранічны тэрмін вызначаецца паводле пляну работ па самаабкладаньні і ня можа перавышаць трох месяцаў, лічачы ад дня пастановы агульнага сходу.

§ 14. Агульны сход можа прыняць самаабкладаньне на патрэбы, якія нельга задаволіць за 1 год, ня выходзячы з гранічных разьмераў самаабкладаньня. У такім выпадку пастанова аб самаабкладаньні дзейнічае і на будучы час і ня можа быць скасавана, пакуль ня будзе задаволена мэта самаабкладаньня. Але для данага году агульная сума самаабкладаньня ня можа перавышаць гранічнага разьмеру, паказанага ў § 4 гэтай інструкцыі, і вызначаецца сходам з такім разьлікам, каб гранічны разьмер самаабкладаньня ня быў парушаны і каб у вызначаны тэрмін мэта самаабкладаньня была выканана.

Прыклад. Гранічны разьмер самаабкладаньня ў зацікаўленым паселішчы складае 3.000 руб. Сход прыняў самаабкладаньне на будаваньне больніцы за 5.000 руб. на працягу двух гадоў. Пастанова гэтая дзейнічае да таго часу, пакуль больніца ня будзе пабудавана, але для данага году на будаваньне больніцы можа быць сабрана толькі 3.000 руб.

*Увага.* Калі самаабкладаньне прынята на два або некалькі гадоў, дык у пастанове агульнага сходу паказваецца, на колькі гадоў разьлічана самаабкладаньне і колькі трэба сабраць у бягучым годзе.

§ 15. Усе вырашаныя пытаньні запісваюцца ў пастанове агульнага сходу, якая падпісваецца прэзыдыумам сходу.

§ 16. Калі трэба задаволіць агульную патрэбу двух або некалькіх паселішчаў, то пытаньне аб устанаўленьні самаабкладаньня можа вырашацца і на агульных сходах грамадзян кожнага паселішча ўпаасобку і на аб'яднаным агульным сходзе грамадзян усіх зацікаўленых паселішчаў з тым, каб на гэтым аб'яднаным агульным сходзе прысутнічала ня менш палавіны агульнага ліку грамадзян, якія карыстаюцца выбарнымі правамі, з кожнага зацікаўленага паселішча.

## III. Раскладка самаабкладаньня.

§ 17. Не пазьней трох дзён ад дня атрыманьня пастановы агульнага сходу грамадзян паселішча аб самаабкладаньні, сельскі (мястэчковы) савет, з удзелам прадстаўніка камітэту ўзаемадапамогі, робіць раскладку агульнае сумы самаабкладаньня паміж паасобных гаспадарак і грамадзян данага паселішча.

§ 18. Сума самаабкладаньня раскладаецца паміж аднаасабовымі гаспадаркамі данага паселішча, якія плацяць сельска-гаспадарчы і падаходны падатак або ня плацяць іх, калектыўнымі гаспадаркамі, асобамі, якія ня плацяць сельска-гаспадарчага і падаходнага падаткаў, у тым ліку асобамі, якія знаходзяцца на дзяржаўнай службе.

*Увага.* Савецкія гаспадаркі, у тым ліку гаспадаркі дзіцячых дамоў, сельска-гаспадарчых школ і г. д., да самаабкладаньня ня прыцягваюцца.

§ 19. Асобы, якія маюць крыніцы даходу ў розных мясцовасьцях прыцягваюцца да самаабкладаньня ў месцы жыцьця іх.

§ 20. Раскладка самаабкладаньня робіцца прапарцыянальна суме сельска-гаспадарчага і падаходнага падаткаў, якія плацяцца данаю гаспадаркаю або асобаю на працягу году. Гаспадаркі, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, удзельнічаюць у самаабкладаньні прапарцыянальна 50% сумы налічанага з іх сельска-гаспадарчага падатку. Саматужнікі сельскіх мясцовасьцяй, з якіх зьнят падатак, удзельнічаюць у самаабкладаньні прапарцыянальна сярэдняй стаўцы гаспадарак, што ня плоцяць сельска-гаспадарчага падатку. Саматужнікі і іншыя асобы і гаспадаркі з мястэчак і з сельскіх саветаў гарадзкой мяжы, што ня плацяць сельска-гаспадарчага і падаходнага падаткаў, удзельнічаюць у самаабкладаньні прапарцыянальна палове сумы падаходнага падатку (з надбаўкаю ў мясцовыя сродкі), які налічваецца з даходу 600 руб. у год паводле таго росьпісу падаходнага падатку, да якога прылічаецца гаспадарка-асоба.

*Увага.* Калі падаходны падатак 1928—29 г. яшчэ не налічаны, дык раскладка самаабкладаньня робіцца прапарцыянальна сумам падаходнага падатку, налічаным па даходу, абкладзеным у 1927—28 г., і паводле ставак падаходнага падатку 1928—29 г.; гэтыя сумы лічацца авансам; пасьля налічэньня падаходнага падатку 1928—29 г. самаабкладаньне пералічваецца паводле новых акладаў, пры чым недабраныя па авансу сумы спаганяюцца дадаткова, а лішкі—зварочваюцца.

§ 21. У сельскіх мясцовасьцях раскладка самаабкладаньня робіцца такім чынам.

Падлічваюцца наступныя сумы:

1. Для гаспадарак, з якіх зьнят увесь сельска-гаспадарчы падатак, падлічваюцца 50 проц. сумы акладу сельска-гаспадарчага падатку, што быў-бы налічаны з іх.

2. Для іншых гаспадарак (у тым ліку калектыўных), якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак, падлічваюцца сумы фактычнага, апроч усіх скідак і ільгот, сельска-гаспадарчага падатку, што яны плацяць.

3. Для ўсіх гаспадарак, якія плацяць падаходны падатак, падлічваюцца сумы падаходнага падатку з набаўкамі ў мясцовыя сродкі, апроч усіх скідак і ільгот, зробленых на час самаабкладаньня.

4. Для асоб, крыніцаю даходаў якіх зьяўляецца заработная плата, што не абкладаецца сельска-гаспадарчым або падаходным падаткамі, падлічваюцца сумы акладаў сельска-гаспадарчага падатку, які быў-бы налічаны з 15 проц. іх заработнай платы за год.

Прыклад. Асоба, якая жыве ў вёсцы, атрымоўвае 600 руб. у год заработнай платы, што не абкладаецца ні сельска-гаспадарчым, ні падаходным падаткамі. Для раскладкі самаабкладаньня з гэтай і іншых такіх асоб падлічваецца аклад сельска-гаспадарчага падатку, які яны плацілі-б з 15 проц. свае заработнай платы за год. У даным выпадку сельска-гаспадарчы падатак падлічваецца з 90 руб., і пры трох едаках складае 1 руб. 35 кап.

5. Для ўсіх гаспадарак саматужнікаў і асоб, што ня плацяць ніякіх падаткаў, падлічваюцца сумы сельска-гаспадарчага падатку, якія былі-б з іх налічаны па сярэдняй стаўцы сельска-гаспадарчага падатку на адну незаможную гаспадарку.

*Увага.* Для вылічэньня гэтай сярэдняй стаўкі падлічваецца сума акладаў усіх гаспадарак, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак па неабкладаемым мінімуме даходаў і скідачным фондзе і дзеліцца на колькасьць гэтых гаспадарак.

Прыклад. У 20-ці гаспадарках, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, як з незаможных, аклады сельска-гаспадарчага падатку складалі-б 60 руб., г. зн. 3 руб. у сярэднім на адну гаспадарку.

Грунтуючыся на гэтай суме (3 руб.), падлічваюцца ўмоўныя сумы падатку з саматужнікаў, якія ня плацяць ніякіх падаткаў.

Сумы падаткаў, падлічаных паводле п. п. 1—5, складаюцца і на іх дзеліцца сума, прынятая да самаабкладаньня; такім чынам вызначаецца процант самаабкладаньня на адзін рубель падаткаў.

Прыклад. Паводле п. п. 1—5 падлічана:

| | |
|---|---|
| 1. З гаспадарак, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак . | 600 р. |
| 2. „ „ з якіх зьняты „ „ „ . | 100 „ |
| 3. „ „ якія плацяць падаходны падатак . . . . | 200 „ |
| 4. З саматужнікаў і асоб, якія ня плацяць ніякіх падаткаў | 30 „ |
| 5. З асоб, якія атрымоўваюць заработную плату, што не абкладаецца сельска-гаспадарчым або падаходным падаткамі | 70 „ |
| Разам . . . . . . . . | 1000 р. |

Прынята да самаабкладаньня сума 250 руб., дзелім яе на 1.000 руб. і атрымоўваем 25 кап., гэта і будзе процант самаабкладаньня на кожны рубель падатку.

§ 22. Гэты процант ужываецца да акладаў кожнай гаспадаркі, вылічаных паводле п. п. 1—5, § 21, і, такім чынам, вызначаецца сума самаабкладаньня для кожнай гаспадаркі.

Прыклад. Сярэдні процант на рубель падаткаў вылічан па 25 кап. Падлічваем сумы самаабкладаньня для паасобных гаспадарак.

1. Гаспадарка плаціць сельска-гаспадарчага падатку, апроч усіх скідак і ільгот, 20 руб.

20 × 25 к. = 5 р. самаабкладаньня.

2. Гаспадарка, з якой зьняты ўвесь сельска-гаспадарчы падатак, 50 проц. акладу з яе складае 2 рублі:

2 × 25 к. = 50 к. самаабкладаньня.

3. Гаспадарка плаціць падаходнага падатку 102 руб.

102 × 25 к. = 25 руб. 50 к. самаабкладаньня.

4. З саматужніка або іншай асобы, якая ня плаціць ніякіх падаткаў, налічана акладу па сярэдняй стаўцы сельска-гаспадарчага падатку для незаможных гаспадарак 3 руб.

3 × 25 к. = 75 кап. самаабкладаньня.

5. На 15 проц. гадовай заработнай платы асобы, якая ня плаціць падаходнага альбо сельска-гаспадарчага падатку, налічана (умоўна) 6 р. акладу сельска-гаспадарчага падатку.

6 × 25 к. = 1 р. 50 к. самаабкладаньня.

§ 23. У мястэчках і сельскіх саветах гарадзкой мяжы раскладка самаабкладаньня робіцца на такіх самых падставах, што і ў сельскіх мясцовасьцях (§§ 21 і 22), аднак, з наступнымі зьменамі: з саматужнікаў і іншых асоб і гаспадарак (у тым ліку з рабочых і служачых), што ня плацяць ніякіх падаткаў, самаабкладаньне налічваецца прапарцыянальна палавіне тэй сумы падаходнага падатку з набаўкаю ў мясцовыя сродкі, якая належыла-б з іх паводле ставак адпаведнага раскладу падаходнага падатку, з даходам 600 руб. у год.

Прыклад 1. Супрацоўнік местачковага каапэратыву не абкладаецца ні сельска-гаспадарчым, ні падаходным падаткамі. Паводле ставак раскладу № 1-а, падаходны падатак з набаўкаю ў мясцовыя сродкі падлічваецца з даходу 600 р. у суме 4 р. 50 к., Самаабкладаньне для данай асобы вылічваецца прапарцыянальна палавіне гэтай сумы, гэта значыць, прапарцыянальна 2 р. 25 к. і калі процант самаабкладаньня складае 20 кап. з рубля падаткаў, дык самаабкладаньне складае ў даным выпадку 45 к.

Прыклад 2. Шавец у сельскім савеце гарадзкой мяжы ня плаціць ні сельска-гаспадарчага, ні падаходнага падаткаў. Паводле ставак раскладу № 2, падаходны падатак з набаўкаю ў мясцовыя сродкі падлічваецца з даходу 600 р. у год у суме 8 р. 10 к. Самаабкладаньне для данай асобы вылічаецца прапарцыянальна палавіне гэтай сумы, гэта значыць, 4 р. 05 к., і калі процант самаабкладаньня складае 20 кап. з рубля падатку, дык самаабкладаньне складзе 81 к.

§ 24. Сельскі (местачковы) савет разам з камітэтам узаемадапамогі мае права:

а) зьменшыць або зусім зьняць з паасобных найбольш заняпалых гаспадарак налічаныя паводле прапарцыянальнай раскладкі сумы самаабкладаньня;

б) паводле хадайніцтваў паасобных грамадзян замяніць ім грашовыя ўносы самаабкладаньня працоўным удзелам.

§ 25. Пры замене грашовых уносаў працоўным ўдзелам трэба браць пад увагу інтарэсы заняпалых груп насельніцтва і кіравацца:

а) пастановаю агульнага сходу аб мэтах і формах самаабкладаньня і патрэбаю ў грошах і ў працы для ажыцьцяўленьня гэтых мэтаў;

б) заяўкамі паасобных грамадзян, прычым, калі на тую ці іншую форму заявак больш, як патрэбна, то перавага даецца менш платаздольным гаспадаркам.

Далейшыя замены вызначанай грашовай формы працаю дазваляюцца толькі ў выключных выпадках у дачыненьні да паасобных незаможных гаспадарак і з поўным захаваньнем інтарэсаў мэты самаабкладаньня.

§ 26. Раскладка самаабкладаньня не пазьней як праз тыдзень ад дня зацьверджаньня яе сельскім (местачковым) саветам абвяшчаецца насельніцтву праз сельскіх выканаўцаў пад расьпіскі. Апроч таго, сьпіс з раскладкаю самаабкладаньня вывешваецца саветам да агульнага ведама на відным месцы.

*Увага.* Грамадзянам, у якіх ёсьць якія-небудзь непаразуменьні, сельскі (местачковы) савет павінен даць вычэрпныя растлумачэньні аб спосабах і падставах раскладкі.

§ 27. На працягу двух тыдняў ад дня абвяшчэньня раскладкі зацікаўленыя грамадзяне маюць права падаць у сельскі (местачковы) савет скаргу на пастанову аб самаабкладаньні наогул, а таксама аб раскладцы.

*Увага.* Сельскі савет мае права разглядзець пададзеныя скаргі і задаволіць іх у межах сваіх праў паводле гэтай інструкцыі, не перасылаючы іх на разгляд раённага выканаўчага камітэту, і толькі незадаволеныя скаргі пасылае апошняму.

§ 28. Пасьля сканчэньня тэрміну, паказанага ў папярэднім параграфе, сельскі (местачковы) савет накіроўвае ў раённы выканаўчы камітэт пастанову агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні з пратаколам агульнага сходу і з сваім заключэньнем, раскладку самаабкладаньня і ўсе атрыманыя скаргі.

*Увага.* Сельскія саветы гарадзкой мяжы накіроўваюць гэтыя матар'ялы і скаргі ў акруговы выканаўчы камітэт праз акруговы фінансавы аддзел.

§ 29. Раённы выканаўчы камітэт павінен скасаваць пастанову сходу грамадзян аб самаабкладаньні ў наступных выпадках:

а) калі агульны сход грамадзян, які прыняў пастанову аб самаабкладаньні, ня меў законнай сілы або калі была парушана гэтая інструкцыя;

б) калі мерапрыемствы, для ажыцьцяўленьня якіх зроблена самаабкладаньне, не прадугледжаны гэтаю інструкцыяю;

в) калі перавышаны для данага паселішча гранічны разьмер самаабкладаньня.

*Увага.* У дачыненьні да сельскіх саветаў гарадзкой мяжы пастановы сходу грамадзян аб самаабкладаньні ў патрэбных выпадках павінны касавацца адпаведным акруговым выканаўчым камітэтам па дакладу акруговых фінансавых аддзелаў.

§ 30. Калі няправільна ўстаноўлена раскладка, то раённы выканаўчы камітэт павінен, незалежна ад таго, ці ёсьць скаргі на раскладку, ці не, зрабіць у іх патрэбныя зьмены.

*Увага.* У дачыненьні да раскладкі самаабкладаньня ў сельскіх саветах гарадзкой мяжы папраўкі робіць адпаведны акруговы фінансавы аддзел.

§ 31. Калі на працягу двох тыдняў ад дня падачы сельскім (местачковым) саветам у раённы выканаўчы камітэт (а ў сельскіх саветах гарадзкой мяжы—у акруговы фінансавы аддзел) пастановы агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні яна ня будзе скасавана раённым (акруговым) выканаўчым камітэтам, а таксама калі раённы выканаўчы камітэт (або акруговы фінансавы аддзел) ня зробіць у раскладцы зьмен, дык пастанова аб самаабкладаньні і раскладка лічацца зацьверджанымі і зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзян данага паселішча.

§ 32. Раённы выканаўчы камітэт, адхіліўшы скаргу, павінен абвясьціць асобе, што падала скаргу, падставы адхіленьня. На паказаныя пастановы могуць падавацца скаргі ў акруговы выканаўчы камітэт, пастановы якога зьяўляюцца канчатковымі. Падача скаргі на пастанову раённага выканаўчага камітэту не прыпыняе пастановы аб самаабкладаньні.

*Увага.* У сельскіх саветах гарадзкой мяжы пастанова акруговага выканаўчага камітэту аб скаргах зьяўляецца канчатковаю.

§ 33. Калі пастанова аб задаволеньні скаргі была вынесена пасьля таго, як раскладка набыла сілу, дык сума, унесеная асобаю, што падала скаргу, павінна быць вернута.

## IV. Абавязкі сельскіх (местачковых) саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 34. Пасьля вынясеньня пастановы аб самаабкладаньні на сельскі (местачковы) савет ўскладаюцца наступныя абавазкі:

а) устанаўленьне тэрміну зьяўленьня грамадзян для працоўнага ўдзелу, у адпаведнасьці з пастановаю агульнага сходу аб самаабкладаньні;

б) збор, захаваньне і падлік сродкаў і матар'ялаў, якія паступаюць у парадку самаабкладаньня;

в) вядзеньне патрэбных закупак і заключэньне дагавораў паводле пастановы агульнага сходу ў адпаведнасьці з чыннымі законамі;

г) кіраваньне ўсімі работамі, якія вядуцца ў парадку працоўнага ўдзелу, разьмеркаваньне паасобных абавязкаў паміж грамадзянамі, назначэньне кіраўнікоў работ, падлік зьяўленьня на працу і зробленай працы;

д) распараджэньне ўсёю маемасьцю, якая набываецца за кошт самаабкладаньня, а таксама і грамадзкімі капіталамі, якія складаюцца ў парадку самаабкладаньня.

*Увага.* Калі самаабкладаньне ўстаноўлена для агульных патрэб некалькіх паселішчаў, аб'яднаных рознымі сельскімі саветамі, дык абавязкі, паказаныя ў гэтым параграфе, ускладаюцца на раённы выканаўчы камітэт альбо, па яго даручэньні, на адпаведны сельскі савет.

§ 35. Атрыманыя ў парадку самаабкладаньня грошы абавязкова захоўваюцца ў бліжэйшай касе ашчаднасьці і выбіраюцца з яе, як толькі спатрэбяцца. Забараняецца пазычаць гэтыя грошы якім-небудзь установам.

§ 36. Нядоімкі па самаабкладаньні спаганяюцца сельскім (местачковым) саветам у адміністрацыйным парадку, які ўстаноўлены для спагнаньня падатку.

*Увага.* Пасьля сканчэньня тэрміну ўносаў самаабкладаньня, вызначанага агульным сходам, на нядоімкі налічваецца пеня ў агульным парадку, вызначаным для нядоімак сельска-гаспадарчага падатку.

§ 37. Калі ў вызначаны тэрмін ня будзе выканана насельніцтвам самаабкладаньне працоўным удзелам, дык кошт такіх работ пераводзіцца асобнаю пастановаю сельскага (местачковага) савету на грошы і спаганяецца паводле параграфу 36.

*Увага 1.* Працоуная форма ўносаў самаабкладаньня пералічваецца на грошы паводле мясцовых даведачных цэн. Гэтыя цэны вызначае раённы выканаўчы камітэт і пераглядае ня менш аднаго разу ў два месяцы. Пры вызначэньні гэтых цэн трэба браць пад увагу розную кваліфікацыю, спэцыяльнасьць працы і ўдзел цягавай конскай сілы.

*Увага 2.* З гаспадарак, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, як з незаможных, і якія ўдзельнічаюць у самаабкладаньні працоўнаю формаю, нядоімка па самаабкладаньні спаганяецца па цэнах працоўнай сілы, прынятых пры раскладцы самаабкладаньня.

§ 38. Сродкі, атрыманыя ў парадку самаабкладаньня, могуць выдавацца толькі на тыя мэты, якія вызначаны ў адпаведнай пастанове агульнага сходу грамадзян. За парушэньне гэтага правіла вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

§ 39. Сельскі (местачковы) савет дае агульнаму сходу справаздачу аб выдаткаваньні сродкаў, атрыманых у парадку самаабкладаньня, а таксама аб вядзеньні работ у парадку працоўнага ўдзелу грамадзян.

*Увага 1.* Справаздачу аб работах, зробленых за кошт самаабкладаньня, сельскі (местачковы) савет дае агульнаму сходу не пазьней, як праз месяц пасьля сканчэньня работ па даным самаабкладаньні, а ў канцы бюджэтнага году—аб выніках усяго самаабкладаньня.

*Увага 2.* Калі ажыцьцяўленьне мэты самаабкладаньня патрабуе доўгага часу, дык справаздача робіцца не пазьней, як праз кожныя тры месяцы.

*Увага 3.* Судакладчыкам сельскага (местачковага) савету аб выніках самаабкладаньня зьяўляецца рэвізійная камісія.

§ 40. Агульны нагляд за вядзеньнем самаабкладаньня ўскладаецца на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты. На рэвізійныя камісіі сельскіх (местачковых) саветаў ускладаецца абавязак рэвізаваць усю дзейнасьць сельскіх (местачковых) саветаў у справе вядзеньня самаабкладаньня.

## V. Самаабкладаньне на іншыя патрэбы.

§ 41. Самаабкладаньне насельніцтва на грамадзкія патрэбы ў іншых, непрадугледжаных параграфам 2 гэтай інструкцыі, выпадках дазваляецца толькі на падставе згоды грамадзян паводле параграфаў 42—45.

§ 42. Пастановы аб самаабкладаньні ў такіх выпадках могуць прымацца на сельскіх сходах і на іншых сходах грамадзян з дакладным вызначэньнем мэты, агульнага разьмеру і раскладкі самаабкладаньня

паміж асобамі, што галасавалі за іх прыняцьце, а таксама парадку выдаткаваньня і кантролю за выдаткаваньнем сродкаў, што паступаюць у парадку самаабкладаньня. Для асоб, якія ня ўдзельнічаюць на сходах, а таксама для асоб, якія ўстрымаліся ад галасаваньня або галасавалі супроць прыняцьця пастановы, апошняя не абавязкова.

§ 43. Усе спрэчкі, якія ўзьнікаюць па пытаньнях такога самаабкладаньня, могуць вырашацца толькі судом. Ужываць у такіх выпадках якія-небудзь меры адміністрацыйнага ўплыву або прымусу не дазваляецца. Удзел сельскіх саветаў і іншых адміністрацыйна-фінансавых устаноў у правядзеньні такога самаабкладаньня і ў спагнаньні ўносаў, што належаць з паасобных грамадзян, забараняецца.

§ 44. Выдаткаваньне сабраных у парадку такога самаабкладаньня сродкаў не на тыя мэты, для якіх збор быў зроблен, караецца ў крымінальным парадку.

§ 45. Гэтая інструкцыя не пашыраецца таксама на зборы, якія ўстанаўляюцца для сваіх членаў арганізацыямі, што маюць, паводле сваіх статутаў або палажэньняў аб іх, права абкладаць сваіх членаў зборамі на задаваленьне тых ці іншых патрэб. Гэтыя зборы ўстанаўляюцца, і атрыманыя сродкі выдаткоўваюцца ў парадку, прадугледжаным або ў спэцыяльным законе, або ў статуте ці палажэньні аб данай арганізацыі.

§ 46. З часу выданьня гэтай інструкцыі ўсе раней выданыя інструкцыі пра самаабкладаньне (Бюлетэнь СНК БССР за 1928 г., № 3 (46), стар. 38) трацяць сваю сілу.

Нам Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін*.

Нач. Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР *М. Кардашэнка*.

1 сьнежня 1928 г.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра зімовы і вясновы перапынак у школьных установах БССР.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе зімовы і вясновы перапынак у школьных установах, падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Асьветы, вызначыць, пачынаючы з 1928-29 навуч. году аж да асобнага загаду, у наступныя тэрміны:

1. У Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай Гаспадаркі імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі, Беларускім Дзяржаўным Вэтэрынарным Інстытуце, 2-х гадовых пэдагагічных курсах, рабочых факультэтах, у Вячэрнім Рабочым Унівэрсытэце, у тэхнікумах і палітэхнікумах—з 1 студзеня да 1-га лютага.

2. У дасьледча-практыкавальных школах пры У-це, пэдтэхнікумах, а таксама прафшколах—з 1-га да 21 студзеня.

*Увага*. (Да п. п. 1 і 2). У тэхнікумах і прафшколах, дзе ёсьць майстэрні, зімовы перапынак павінен быць выкарыстан інструктарамі і тэхнічнымі працаўнікамі на патрэбны рамонт майстэрняў і прыладаў.

3. На агульна-адукацыйных курсах, у Цэнтральнай Дасьледчай школе, у 9-годках, у школах ІІ-й ступені, сямігодках, чатырохгодках і школах І ступені (гарадзкіх і местачковых), у школах сялянскай моладзі, у школах фабрычна-заводзкага вучнёўства, у практыкавальных майстэр-

нях, у вячэрніх школах узвышанага тыпу, у вячэрніх школах рабочай і сялянскай моладзі, у школах для малапісьменных і на лікпунктах (гарадзкіх і местачковых)—з 1-га па 15 студзеня ўключна і вясновы перапынак з 1-га па 7 красавіка ўключна.

*Увага.* У школьных установах палітасьветы (вячэрнія школы сялянскай моладзі, школы для малапісьменных, лікпункты) і сельскіх мясцовасьцях зімовага перапынку не рабіць.

4. У школах першай ступені і чатырохгадовых школах у сельскі мясцовасьцях—з 1-га па 7 студзеня ўключна.

5. Ва ўстановах для дэфэктыўных дзяцей (Беларускі Інстытут Сацыяльнага Перавыхаваньня, Беларускі Інстытут Глуханямых, Беларускі Інстытут Разумова-адсталых дзяцей і Школа Сьляпых)—з 1-га да 7 красавіка ўключна.

У час перапынку ў гэтых ўстановах павінны адбывацца заняткі клюбнага характару.

У Беларускім Камуністычным Унівэрсытэце і савецкіх партыйных школах—з 1-га студзеня да 15 лютага.

*Увага.* У савецкіх партыйных школах першыя чатыры тыдні даюцца на практычную працу, а рэшта на адпачынак.

7. Дзіцячыя дамы і сады зімовым перапынкам не карыстаюцца.

8. Скасаваць пастанову НКА БССР за 25 лістапада 1927 г. № 21 „Пра зімовы і вясновы перапынак у школьных установах БССР“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 1).

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

28 лістапада 1928 г.
№ 22.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра няўхільнае выкананьне Закону аб льготах чырвонаармейцам, асобам каманднага складу і членам іх сем'яў.**

*Акруговым і раённым інспэктарам народнай асьветы і загадчыкам установаў, беспасрэдна падпарадкаваных НКА.*

Зауважана, што некаторыя навучальныя ўстановы парушаюць зацьверджаную СНК БССР „Інструкцыю аб ўжываньні Кодэксу законаў аб льготах для вайскоўцаў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і флёту“ (З. З. БССР 1926 г. № 15, арт. 56, разьдз. VII), у дачыненьні да льгот вайскоўцам і іх сем'ям у галіне народнай асьветы.

Абвяшчаючы з гэтым абежнікам выпіс з памянёнай інструкцыі, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Загадчыкам навучальных установаў няўхільна кіравацца інструкцыяю аб льготах вайскоўцам у часе прыняцьця іх і членаў іх сем'яў у навучальныя ўстановы, забясьпечаньня іх стыпэндыямі і падручнікамі, і ў часе звальненьня іх ад платы за навучаньне.

2. Акруговым і раённым інспэктарам народнай Асьветы сачыць за правільным ўжываньнем навучальнымі ўстановамі памянёнай інструкцыі, даючы належныя тлумачэньні, калі яна будзе парушана.

Нам. Народнага Камісара Асьветы *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы *Ю. Савіч.*

30 лістапада 1928 г.
№ 6.

*Дадатак.*

**Выпіс з зацьверджанай Саветам Народных Камісараў БССР „Інструкцыі аб ўжываньні Кодэксу Законаў аб льготах для вайскоўцаў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флёту ў галіне працоўнага землякарыстаньня і сельскай гаспадаркі, па адзіным сельска-гаспадарчым падатку, па падатку ад даходаў, у галіне жылішча, працы, сацыяльнага страхаваньня, аховы здароўя, народнай асьветы і ў галіне абароны праўнага і маемаснага становішча вайскоўцаў і іх сем'яў“ (З. З. БССР 1926 г., № 15, арт. 56).**

**Льготы ў галіне народнай асьветы.**

29. Недалетнія члены сем'яў чырвонаармейцаў, чырвонафлётцаў, каманднага, адміністрацыйнага, палітычнага, мэдыцынскага і вэтэрынарнага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флёту карыстаюцца наступнымі льготамі па народнай асьвеце.

I. Па сацыяльным выхаваньні:

а) прымаюцца ў першую чаргу пасьля выхаванцаў дзіцячых дамоў ва ўсе ўстановы сацыяльнага выхаваньня (дзіцячыя сады, дзіцячыя дзённыя прытулкі, дзіцячыя дамы, установы для дэфэктыўных і розныя школы).

б) звальняюцца ад платы за навучаньне ў гэтых установах.

II. Па прафэсыянальна-тэхнічнай асьвеце:

а) чырвонаармейцы, чырвонафлётцы, асобы каманднага, адміністрацыйнага, палітычнага, мэдыцынскага і вэтэрынарнага складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флёту, а таксама і іх дзеці прымаюцца ва ўсе ўстановы прафэсыянальна-тэхнічнай асьветы па камандыроўках Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў пры Савеце Народных Камісараў БССР у першую чаргу перад іншымі камандыраванымі пры ўмове, што яны здадуць устаноўленыя экзаміны;

б) пералічаным у папярэднім пункце асобам ва ўсіх установах прафэсыянальна-тэхнічнай асьветы, пры іншых роўных умовах з другімі слухачамі, даюцца ў першую чаргу стыпэндыі;

в) пералічаныя у п. „а“ асобы, пры звальненьні ад платы за навучаньне ва ўсіх прыватных установах, падпарадкаваных галоўнай Управе Профэсыянальна-Тэхнічнай Асьветы, звальняюцца ад платы ў першую чаргу;

г) дзеці пералічаных у п. „а“ вайскоўцаў звальняюцца ад платы за навучаньне ва ўсіх установах профэсыянальна-тэхнічнай асьветы.

---

## 17. Абежнік Народных Камісярыятаў Асьветы і Працы БССР

**пра падлік спэцыялістаў, якія канчаюць вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы.**

*Вышэйшым навучальным установам, а таксама тэхнічным і сельска-гаспадарчым тэхнікумам.*

Для поўнага забясьпечаньня падліку спэцыялістаў народнай гаспадаркі, Народныя Камісарыяты Асьветы і Працы БССР, у дадатак да пастановы НКП БССР за 31 жніўня 1928 г. № 56 „Пра падлік спэцыялістаў народнай гаспадаркі“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 11) прапануюць загадчыкам вышэйшых навучальных установў, а так-

сама тэхнічных і сельска-гаспадарчых тэхнікумаў паведамляць пісьмова асоб, якія канчаюць гэтыя навучальныя ўстановы аб тым, што тыя з іх, якія не знаходзяцца на падліку спэцыялістаў, павінны ўзяцца на падлік у адпаведнай акруговай інспэкцыі працы, у парадку, устаноўленым арт. 18 „Руководства для учета квалифицированных специалистов народного хозяйства“ („Изв. НКТруда“ 1928 г. № 34/35).

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР *С. Слонім.*

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

30 лістапада 1928 г.
№ 7617.

---

## 18. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Земляробства БССР

### пра засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі і местачковымі саветамі ўгод, дагавораў і дакумэнтаў.

*(Выдана на падставе пастаноў ЦВК і СНК БССР за 5 сакавіка 1926 г. і 22 сьнежня 1927 г. і пастановы ЦВК БССР за 13 студзеня 1928 г.— З. З. БССР 1926 г., № 12, арт. 45, 1928 г, № 6, арт. арт. 35 і 36).*

1. Каб наблізіць натарыят да сельскага насельніцтва, пастановамі ЦВК і СНК БССР за 5 сакавіка 1926 года за 22 сьнежня 1927 г. (З. З. БССР 1926 г, № 12, арт. 45 і 1928 г. № 6, арт. 36) на раённыя выканаўчыя камітэты, местачковыя і сельскія саветы ўскладаецца выкананьне наступных натарыяльных дзеяньняў:

А. На раённыя выканаўчыя камітэты ўскладаецца засьведчаньне ўгод у выпадках, спэцыяльна паказаных у законе, у паасобку—засьведчаньне ўгод па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія заключаюцца беспасрэдна з насельніцтвам (увага 3 да арт. 139 Грамадзянскага Кодэксу).

Б. На местачковыя і сельскія саветы ўскладаецца:

1) Засьведчаньне дагавароў куплі-продажу, мены, дарэньня, маемаснага найманьня на тэрмін ня больш аднаго году і на дастаўку прадуктаў свае гаспадаркі, калі гэтыя дагаворы заключаюцца паасобнымі грамадзянамі паміж сабою або з первястковымі капэратывамі, зямельнымі грамадамі, камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, з умоваю, што сума кожнай з паказаных угод або сума плацяжоў па дагавару маемаснага найманьня не перавышае 300 руб., а калі аб‘ектам угоды зьяўляецца будынак, то паказаная сума можа быць павялічана да 500 руб.

*Увага.* Правілы, паказаныя ў гэтым пункце, не пашыраюцца на дагаворы працоўнай арэнды зямлі, рэгістрацыя і зацьверджаньне якіх робіцца сельскімі і местачковымі саветамі, як пасобная адміністрацыйная функцыя, паводле пункту „а“ арт. 85 пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 сьнежня 1927 г. (З. З. БССР 1928 г. № 6, арт. 36) і арт. арт. 31 і 32 Зямельнага Кодэксу.

2) Засьведчаньне даверанасьцяй, якія выдаюцца:

а) на заключэньне ўсіх паказаных ў папярэднім пункце дагавароў,

б) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі дагавароў працоўнай арэнды зямлі,

в) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб‘яднаньнямі дагавароў арэнды дзяржаўнай зямельнай маемасьці,

г) на падпісаньне абавязнасьцяй пры куплі працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі ў розьніцу з выплатаю ратамі сельска-гаспадарчых машын і прыладаў,

д) на вядзеньне спраў у судовых і іншых урадавых установах працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі, а таксама пачатковымі каператывамі (вытворчымі, спажывецкімі, крэдытнымі і г. д.) і сялянскімі камітэтамі ўзаемнай дапамогі,

е) на атрыманьне грашовай і пасылачнай карэспандэнцыі:

3) Засьведчаньне асобы атрымальнікаў паштовай карэспандэнцыі і засьведчаньне подпісаў на заявах, павестках і на іншых дакумэнтах, якія ня маюць характэру ўгод.

4) Засьведчаньне копій дакумэнтаў, калі самыя дакумэнты засьведчаны дзяржаўнымі ўстановамі або выдаюцца імі.

2. Угоды, дагаворы і дакумэнты, складзеныя з парушэньнем чыннага законадаўства, не павінны засьвядчацца.

3. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія і местачковыя саветы ня могуць засьвядчаць угод, дагавароў і дакумэнтаў, у якіх удзельнічаюць жонкі старшынь ці сакратароў паказаных органаў, а таксама сваякі на простай лініі, браты і сёстры старшыні і сакратара і іх жонак.

4. Угоды і дагавары падаюцца старанамі для засьведчаньня ня менш, чымся ў двух экзэмплярах. Пададзеныя экзэмпляры падпісваюцца старанамі, пры гэтым першы экзэмпляр пасьля засьведчаньня застаецца ў сельскім ці местачковым савеце і далучаецца ў параду нумароў у рэестры да першых экзэмпляраў раней засьведчаных угод і дагавароў.

5. Ва ўгодзе або дагаворы павінна быць паказана, каму трэба выдаць другі экзэмпляр угоды або дагавору, а калі прадугледжана выдача трэцяга экзэмпляру, то таксама павінна быць паказана, каму яго трэба выдаць.

6. У надпісе або пасьведчаньні на другім экзэмпляры, які выдаецца ўдзельніку ўгоды, паказваецца „другі экзэмпляр“; на трэцім экзэмпляры, калі прадугледжана яго выдача, таксама паказваецца „трэці экзэмпляр“.

7. Калі на аднэй старане ўдзельнічаюць некалькі асоб, то ва ўгодзе павінна быць паказана, каму з гэтых асоб трэба выдаць „другі“ ці „трэці“ экзэмпляр. Іншыя асобы тае самай стараны могуць атрымаць толькі копіі ўгоды або дагавару.

8. Калі пры засьведчаньні ўгод або дагавараў арыгінал выдаецца толькі аднэй старане, то другой выдаецца засьведчаная з яго копія.

9. Пры засьведчаньні ўгод і дагавароў паміж паасобнымі грамадзянамі, а таксама даверанасьцяй, трэба ўпэўніцца: 1) у самаасабістасьці старон, г. зн, што яны запраўды зьяўляюцца тымі асобамі, якімі яны сябе называюць, 2) у праваздольнасьці і дзеяздольнасьці іх, г. зн., у тым, ці мае права кожная з старон заключаць угоды і ці могуць асобы, якія заключаюць угоду або дагавор, самі заключаць яе, без законных прадстаўнікоў, напрыклад, няпоўналетнія і душэўна-хворыя і 3) у тым, што стораны разумеюць сэнс і значэньне ўчыненай імі ўгоды або дагавору.

10. Юрыдычныя асобы (каператывы, зямельныя грамады, камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і г. д.) дзейнічаюць праз сваіх прадстаўнікоў, якія выступаюць ад імя юрыдычнай асобы або паводле статуту (напрыклад, кіраўніцтва каператыву), або паводле закону (напрыклад, упаўнаважаныя зямельнай грамады, адказны кіраўнік установы і г. д.), або па даверанасьці, засьведчанай натарыяльнаю кан-

торою або ў паказаных вышэй выпадках сельскім ці местачковым саветам. Даверанасьці ад імя дзяржаўных установ і прадпрыемстваў тады правадзейны, калі яны падпісаны адказным кіраўнікам і на іх ёсьць пячатка ўстановы ці прадпрыемства (арт 276 Грамад. Код.).

11. Пры засьведчаньні ўгод, дагавароў ці даверанасьцяй з удзелам юрыдычных асоб (каператыва, дзяржаўнай установы ці прадпрыемства і г. д.) правяраецца: 1) ці ёсьць зацьверджаны альбо зарэгістраваны статут, або палажэньне або закон аб адпаведнай арганізацыі, 2) ці мае права арганізацыя ці прадпрыемства паводле свайго статуту або палажэньня або паводле закону рабіць даную ўгоду, 3) самаасабістасьць прадстаўнікоў арганізацыі і 4) ці маюць яны права дзейнічаць ад імя данай арганізацыі ці прадпрыемства.

12. Калі асобы, якія ўдзельнічаюць ва ўгодзе або дагаворы, асабіста вядомы раённаму выканаўчаму камітэту, сельскаму і местачковаму савету, то гэта паказваецца ў надпісе аб засьведчаньні ўгоды і дагавору. Калі-ж гэтыя асобы не вядомы, то асабістасьць іх устанаўляецца на падставе дакумэнтаў, паказаных у параграфе 13 гэтай інструкцыі.

13. Самаасабістасьць асоб, якія ўдзельнічаюць ва ўгодзе або ў дагаворы, устанаўляецца адным в наступных дакумэнтаў:

а) пасьведчаньнем асобы, выданым у гарадох міліцыяю, а ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках—сельскімі ці местачковымі саветамі, паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 2 лютага 1928 году (З. З. БССР 1928 г., № 9, арт. 69).

*Увага 1.* Для вайскоўцаў Чырвонай Арміі і Флёту пасьведчаньнем асобы зьяўляюцца службовыя кніжкі чырвонаармейцаў або адпаведныя дакумэнты аб належнасьці да каманднага, палітычнага ці адміністрацыйна-гаспадарчага складу, выданыя з часьцей войск, кіраніцтваў і ўстаноў.

*Увага 2.* Для маракоў гандлёвага флёту пасьведчаньнем асобы зьяўляюцца параходныя кніжкі ўстаноўленага ўзору.

б) актавым (або старым мэтрычным) выпісам аб нараджэньні;

в) разьліковаю кніжкаю ці іншым пасьведчаньнем з месца працы або службы;

г) членскім білетам прафэсіянальнага саюзу;

д) членскім білетам таварыства саматужнікаў;

е) пэнсійнаю кніжкаю, выданаю інваліду працы або вайны.

14. Пры засьведчаньні па жаданьні старон дагавору і ўгоды на адчужэньне будынкаў, якія знаходзяцца на землях, дадзеных законным парадкам у карыстаньне працоўных землякарыстальнікаў, не для раскіданьня або пераносу, а для скарыстаньня іх на месцы, сельскія і местачковыя саветы патрабуюць: а) пасьведчаньне раённага выканаўчага камітэту аб тым, каму належыць будынак, б) аб тым, што зямля працоўнага карыстаньня, на якой знаходзіцца будынак, перададзена купцу і в) падпіску членаў двара аб згодзе на адчужэньне будынку.

*Увага.* Для засьведчаньня ўгод аб адчужэньні паказанных у гэтым параграфе будынкаў для раскіданьня і пераносу, ня трэба ніякіх дакумэнтаў.

15. Для засьведчаньня ўгод аб адчужэньні будынкаў, якія знаходзяцца ў гарадох і мястэчках не на землях працоўнага карыстаньня, трэба падаваць: а) даведкі аддзелу мясцовай гаспадаркі (камунальнага) з рээстру ўладаньняў аб тым, каму належыць будынак, які адчужаецца, а калі гэты будынак ужо куплены, то другі экзэмпляр натарыяльна пасьведчанай угоды аб набыцьці будынку або выпісу натарыяльнага акту, або акту аб набыцьці будынку з публічных таргоў

(у гэтых дакумэнтах павінна быць паказана на тое, што яны зарэгістраваны ў аддзелах мясцовай гаспадаркі (камунальных); б) даведкі адпаведнай натарыяльнай канторы аб арыштах, якія ляжаць на будынку; в) даведкі адпаведнага органу камунальнай гаспадаркі аб тым, што ад імя прадаўца, яго супруга і непаўналетніх дзяцей не рабілася адчужэньняў уладаньняў на працягу трох папярэдніх гадоў; г) даведкі таго-ж органу аб тым, што купец, яго супруг і непаўналетнія дзеці не ўладаюць будынкам у данай мясцовасьці і д) даведкі аб ацэнцы будынку пры застрахаваньні, абкладаньні падаткамі і зборамі (толькі пры ўгодах аб продажы будынку).

16. Другі экзэмпляр натарыяльна-пасьведчанай угоды куплі-продажу будынку, калі апошні прадаецца для скарыстаньня на месцы, а не для раскіданьня або пераносу, падаецца ў раёны выканаўчы камітэт для рэгістрацыі.

17. Пры засьведчаньні запраўднасьці подпісаў на заявах і іншых дакумэнтах (але не на ўгодах або дагаворах) правяраецца толькі самаасабістасьць асобы, якая падпісала дакумэнт.

Пры засьведчаньні подпісаў за няпісьменных або за асоб, якія ня могуць падпісацца з прычыны хваробы і з іншых прычын, правяраецца самаасасабістасьць няпісьменных ці асоб, якія ня могуць падпісацца самі з іншай прычыны, а таксама і асоб, якія за іх расьпісаліся.

19. Подпіс на дакумэнце, які засьвядчаецца, павінен быць зроблен у прысутнасьці старшыні раённага выканаўчага камітэту ці сельскага або местачковага савету, а калі дакумэнт быў падпісан раней, то подпіс на ім павінен быць пацьверджаны асабіста тою асобаю, якая яго зрабіла.

20. У надпісе аб засьведчаньні павінна быць паказана: 1) назва раённага выканаўчага камітэту і сельскага або местачковага савету, якім зроблена засьведчаньне; 2) год, месяц і дзень засьведчаньня; 3) іменьні, іменьні па бацьку і прозьвішчы асоб, якія ўдзельнічаюць ва ўгодзе або ў дагаворы; 4) дакумэнты, якімі ўстаноўлена самаасабістасьць іх або паказаньне, што яны асабіста вядомы старшыні раённага выканаўчага камітэту, сельскага або местачковага савету; 5) даверанасьць або іншыя дакумэнты, на падстве якіх дзейнічае прадстаўнік стараны.

21. Пры засьведчаньні ўгоды або дагавору з удзелам юрыдычнай асобы (каператыву, зямельнай грамады, установы і г. д.), або даверанасьці ад імя юрыдычнай асобы, у засьведчаньні, апроч зазначанага ў пярэднім параграфе, трэба паказаць статут, палажэньне або закон, на падставе якіх удзельнічае ва ўгодзе юрыдычная асоба.

22. Пры засьведчаньні подпісу за няпісьменнага або за асобу, якая ня можа расьпісацца з прычыны хваробы ці з іншай прычыны, у надпісе або засьведчаньні паказваецца, хто па чыёй просьбе і з якой прычыны расьпісаўся.

23. Калі хто-небудзь з удзельнікаў ва ўгодзе або ў дагаворы няпісьменны, то за няпісьменнага ня могуць расьпісвацца іншыя ўдзельнікі тае самай угоды або дагавору.

24. Пры засьведчаньні перадаверанасьці, г. зн., даверанасьці, якая выдаецца паверaным на падставе даверанасьці, што ў яго ёсьць, трэба ўпэўніцца, ці даецца яму даверанасьцю права перадаверанасьці і дамагацца, каб у перадаверанасьці ня было больш паўнамоцтваў, чымся ў асноўнай даверанасьці, і каб тэрмін перадаверанасьці ня быў большы таго тэрміну, на які выдана асноўная даверанасьць.

25. На асноўнай даверанасьці, пасьля засьведчаньня перадаверанасьці павінна быць зроблена адзнака аб тым, што на падставе гэтай даверанасьці сельскім ці местачковым саветам засьведчана перадаверанасьць (даверанасьць), а паказаньнем асобы, на чыё імя засьведчана перадаверанасьць, часу засаведчаньня і нумару ў рэестры.

26. Калі засьвядчаецца вернасьць копіі з арыгіналам (дагаворам, выпісам ЗАГС'у і г. д.), то копія варочаецца з арыгіналам, а ў засьведчаньні паказваецца, кім быў паданы арыгінал, а таксама якім гэрбавым зборам аплачаны арыгінал. Калі-ж у арыгінале былі якія-небудзь папраўкі ці прыпіскі, то ў засьведчаньні павінна быць паказана аб гэтым.

27. На арыгінале пасьля засьведчаньня вернасьці копіі робіцца адзнака, што з яго сельскім ці местачковым саветам засьведчана копія з паказаньнем дня, месяца і году засьведчаньня і нумару ў рэестры.

28. Усе дакумэнты, якія засьвядчаюцца, павінны быць напісаны ясна і чытэльна. Ніякіх падчыстак ў іх не павінна быць. Пропускі павінны быць прачыркнуты, папраўкі і прыпіскі абмоўлены перад подпісамі асоб, якія ўдзельнічаюць ва ўгодзе або ў дагаворы, а калі папраўкі і прыпіскі зроблены ў надпісе аб засьведчаньні, то яны павінны быць абмоўлены перад подпісамі адпаведных службовых асоб.

29. Калі ўгода ці дакумэнт напісаны на некалькіх аркушах, то аркушы пасьля засьведчаньня павінны быць пранумараваны, прашнураваны і прапячатаны лякаваю пячаткаю раённага выканаўчага камітэту або сельскага ці местачковага савету.

30. Надпіс аб засьведчаньні робіцца на самым дакумэнце і падпісваецца старшынёю і сакратаром раённага выканаўчага камітэту або сельскага ці местачковага савету, а таксама ставіцца адпаведная пячатка.

31. Угода або дагавор лічацца пасьведчанымі толькі з таго моманту, калі надпіс аб засьведчаньні запісаны ў рэестр, падпісаны старшынёю і сакратаром і прыкладзена пячатка.

32. Усе ўгоды, дагаворы і дакумэнты, якія сьведчацца, павінны быць запісаны ў асобную кнігу—рэестр, які вядзецца паводле формы, устаноўленай абежнікам НКУС за 28 лістапада 1925 году № 365 і даданай да гэтай інструкцыі; пры гэтым запіс у рэестр павінен быць зроблен абавязкова ў дзень засьведчаньня, каб час запісу ў рэестры быў той самы, што і ў засьведчаньні на ўгодзе, дагаворы або дакумэнце.

33. У рэестр запісваецца толькі кароткі зьмест угоды або дагавору ці дакумэнту, але так, каб было ясна, хто зрабіў угоду, у чым выяўляецца ўгода, на які тэрмін яна заключана і на якую суму, які дакумэнт пасьведчаны, а таксама адзначаецца, якія спагнаны зборы і месца жыцьця асоб, якія ўдзельнічаюць ва ўгодзе або падалі дакумэнты, і асоб, якія за іх расьпісаліся, калі яны самі не маглі расьпісацца з тае ці іншай прычыны.

31. Копія зьнімаецца з усяго дакумэнту, уключаючы тэкст засьведчаньня на арыгінале.

35. Засьведчаньне робіцца паводле ўзорных формаў, якія былі дададзены да абежніку НКУС за 28 лістапада 1925 году № 365 і якія дадаюцца да гэтай інструкцыі.

36. З часу ўвядзеньня ў сілу гэтай інструкцыі касуецца інструкцыя НКЮ, НКУС і НКЗ за 28 красавіка 1926 году № 165, апублікаваная ў № 7 (16) Бюлетэню СНК БССР за 1926 год.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Народны Камісар Земляробства БССР *З. Прышчэпаў.*

---

*Дадатак 1*

Узор № 60.

**Рэестр Койданаўскага Раённага Выканаўчага Камітэту для рэгістрацыі пасьведчаных угод, дагавароў і дакумэнтаў на 192... год.**

| Парадк. №№ | Год, месяц і дзень | Імя, па бацьку, прозьвішча, месца пражываньня і асабістасьць тых грамадзян, для якіх зроблены пасьведчаньні | Зьмест пасьведчаных дакумэнтаў і атрыманыя зборы | Расьпіска аб атрыманьні дакумэнтаў (імя, па бацьку і прозьвішча) |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 1925 г. студзеня 7 | Пятрусевіч, Якуб Іванавіч, які жыве ў вёсцы Макаўчыцы Койданаўскага раёну, Менскай акругі, асабіста вядомы | Пасьведчаньне копіі без аплаты гэрбавым зборам з пасьведчаньня асобы, выдадзенага Самахвалавіцкім Раённым Выканаўчым Камітэтам 8/11—1924 г. № 32. Зборы па пасьведчаньні . . . . кап. | Копію і арыгінал атрымаў Я. Пятрусевіч. |
| 18 | Студзеня 8 | Дзяржаўны Сельска-Гаспадарчы Сындыкат, які знаходзіцца ў Менску, па Савецкай вул., № 111, у асобе Аляксандра Іванавіча ЖУРА, што падаў пасьведчаньне аб сваёй асобе за № 35, і Арлоў, Пётра Хведаравіч, які жыве ў вёсцы Крысава Станькаўскага раёну, Менскай акругі, і асоба якога вядома | Пасьведчаны дагавор на дастаўку Сельска-Гаспадарчаму Сындыкату Арловым 20 пудоў масла па 14 руб. за пуд з дастаўкаю на станцыю . . . . . Дастаўка робіцца рознымі партыямі ў пяць тэрмінаў. Апошні тэрмін—14/VI—25 г. Выплата робіцца пасьля прыняцьця кожнай партыі. Дзяржаўны Сельска-Гаспадарчы Сындыкат выдае аванс пры падпісаньні дагавору ў суме 60 руб. Зборы: Гэрбавы . . . руб. . . . . кап. і за пасьведчаньне . . . . . . . руб. . . . . . . . кап. | |

*Дадатак 2.*

## Формы засьведчаньняў.

### А. Засьведчаньне дагавору.

Дагавор гэты засьведчаны ў Койданаўскім Раённым Выканаўчым Камітэце Менскай Акругі БССР ад імя Сельска-Гаспадарчага Капературу „Дапамога", які знаходзіцца ў вёсцы Макаўчыцы, у асобе Старшыні Кіраўніцтва Юркі Іванавіча Гаўрылюка і члена Кіраўніцтва Пятра Тодаравіча Сяргейчыка і ад імя грам. Васіля Пятровіча Каравайчыка, які жыве ў той самай вёсцы. Паказаныя асобы падпісалі дагавор уласнаручна (або запэўнілі, што дагавор падпісаны імі) і падалі дзеля пасьведчаньня сваёй асобы: Гаўрылюк і Сяргейчык разьліковую кніжку за № 24, а Каравайчык асабіста вядомы. Пры гэтым дададзены статут капературу і кніга пратаколаў аб выбарах кіраўніцтва.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . . . руб. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . . . . руб. Зборы падлічаны з сумы (паказаць суму).

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . . . году . . . . . . . . . дня.

У рэестры №________ (пішацца літарамі)

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### Б. Засьведчаньне дагавору.

Дагавор гэты засьведчаны ў Койданаўскім Раённым Выканаўчым Камітэце Менскай Акругі ад імя грам. Івана Сідаровіча Капцэвіча і Міколы Сяргеявіча Абрамовіча, якія асабіста вядомы і падпісалі дагавор уласнаручна.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . . руб. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . . руб. Зборы падлічаны з сумы . . . . . (паказаць суму)

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . году . . . . . . . „ " дня.

У рэестры №________ (пішацца літарамі)

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### В. Засьведчаньне даверанасьці.

Даверанасьць гэта засьведчана ў Койданаўскім Сельскім Савеце Койданаўскага Раёну Менскай Акругі ад імя спажывецкага капературу „Камуна", што знаходзіцца ў вёсцы Макаўчыцы, у асобе Старшыні Кіраўніцтва капературу Сымона Іванавіча Паляшчука і члена Кіраўніцтва Пятра Паўлавіча Сянькевіча, якія асабіста вядомы і пад-

пісалі даверанасьць уласнаручна. Пры гэтым меўся на ўвазе статут капэратыву і кніга пратаколаў аб выбарах Кіраўніцтва.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . руб. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . руб.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . . году . . . . . . . „ “ дня.

У рэестры №

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### Г. Засьведчаньне арыгіналаў подпісаў.

а)

Койданаўскі Раённы Выканаўчы Камітэт Менскай акругі БССР сьведчыць уласнаручны подпіс гр. Івана Пятровіча Пяткевіча, які жыве ў вёсцы Макаўчыцы і які падаў для пацьверджаньня свае асобы пасьведчаньне асобы за № 40.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . руб. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . руб.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . году . . . . . . . . „ “ дня

У рэестры №

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

б)

Койданаўскі Местачковы Савет Койданаўскага Раёну Менскай Акругі БССР сьведчыць, што подпіс гэты, з прычыны няпісьменнасьці і па асабістай просьбе асабіста вядомага Местачковаму Савету гр. Піліпа Іванавіча Карповіча, які жыве ў вёсцы Макаўчыцы, зроблены ўласнаручна Пятром Пятровічам Бабічам, які жыве ў той самай вёсцы.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . . году . . . . . . . „ “ дня.

У рэестры №

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### Д. Засьведчаньне вернасьці копіі.

Койданаўскі Раённы Выканаўчы Камітэт Менскай Акругі БССР сьведчыць вернасьць гэтай копіі з арыгіналам, аплочаным гэрбавым зборам у разьмеры . . . . . . . . руб. і паданым гр. Сяргеям Пятровічам Крукоўскім, які жыве ў вёсцы Макаўчыцы.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . . . рубл. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . . . . . руб.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . . году . . . . . . „ “ дня.

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### Е. Засьведчаньне вернасьці копіі з засьведчанага дагавору.

Койданаўскі Раённы Выканаўчы Камітэт Менскай Акругі БССР сьведчыць вернасьць гэтай копіі з арыгіналам, аплочаным гэрбавым зборам у разьмеры . . . . . . руб. і паданым сельска-гаспадарчым каператывам „Дапамога“, які знаходзіцца ў вёсцы Макаўчыцы.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . . . руб. (маркамі), 2) за засьведчаньне . . . . . руб.

Копія гэта выдадзена Пятру Пятровічу Касабуцкаму.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . году . . . . . . „ “ дня.

У рэестры №

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

### Ж. Засьведчаньне вернасьці выпісу з гандлёвай кнігі.

Койданаўскі Раённы Выканаўчы Камітэт Менскай Акругі БССР сьведчыць вернасьць гэтага выпісу з запісам у арыгінале, зьмешчаным на стар. 3 кнігі з назваю „Журнал-Галоўная Спажывецкага каператыву „Наперад“, пададзенага Пятром Іванавічам Залуцкім, які жыве ў вёсцы Макаўчыцы.

Атрымана збораў: 1) Гэрбавага . . . . руб., 2) за засьведчаньне . . . . . . руб.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць . . . году . . . . . . . . „ “ дня.

У рэестры №

м. п.

Старшыня (подпіс)

Сакратар (подпіс)

---

*Дадатак 3.*

## Такса збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі ўгод, дагавароў і дакумэнтаў.

На падставе пастаноў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 5 сакавіка і 18 верасьня 1926 г. і 22 студзеня 1927 г. (З. З. БССР 1926 г. № 12, арт. 45, і № 40, арт. 149, і 1928 г., № 6, арт. 36) устанаўляецца з моманту апублікаваньня пака-

заная ніжэй такса збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі, сельскімі і местачковымі саветамі ўгод, дагавароў і дакумэнтаў.

## I. Агульныя палажэньні.

1. Установы, асобы і дакумэнты, якія не абкладаюцца зборамі, паказаны ў пераліку, далучаным да таксы; апроч гэтага раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія і местачковыя саветы могуць зьнімаць зборы з незаможных асоб.

Аб зьняцьці збораў з устаноў, асоб і дакумэнтаў з тае ці іншай прычыны адзначаецца ў надпісе аб засьведчаньні з паказаньнем падрабязных прычын зьняцьця.

2. Калі ва ўгодзе ўдзельнічаюць асобы або ўстановы, якія не плацяць натарыяльных збораў, то гэтыя зборы плацяцца другою стараною, калі самыя ўгоды (дакумэнты) абкладаюцца зборамі.

Зборы плацяцца пры самым засьведчаньні ўгоды (дакумэнтаў) і ня можа дазваляцца ніякая раскладка тэрміну выплаты.

3. Зборы за засьведчаньне, якія бяруцца паводле гэтай таксы, ідуць у прыбытак раённага бюджэту.

## II. Стаўкі збораў.

1. За засьведчаньне ўгод і дагавароў бярэцца з сумы ўгоды або дагавору ½ проц., але ня менш 50 кап.

Для вызначэньня сумы ўгоды, каб узяць збор за засьведчаньне, ужываюцца тыя самыя правілы, што і для браньня гэрбавага збору, згодна з арт. 5 інструкцыі аб ужываньні статуту аб гэрбавым зборы, паводле якога ў суму ўгоды ўваходзяць як тыя плацяжы, якія адна старана павінна зрабіць другой, так і плацяжы па той самай угодзе, якія яна апроч таго павінна зрабіць асобам, што не зьяўляюцца стараною ва ўгодзе (трэцім асобам).

Сумаю ўгоды лічыцца тая сума, якая абвешчана старанамі і можа выяўляцца або ў грошах або ў натуры (напрыклад, столькі-та пудоў жыта).

Кошт прадметаў вызначаецца старанамі, а калі ён ня вызначан, то вызначаецца органам, які пасьведчвае ўгоду, паводле даведачных цэн адпаведных установ у момант заключэньня угоды.

2. За засьведчаньне ўгод і дагавароў, сума якіх ня можа быць вызначана ў момант засьведчаньня, бярэцца адначасна 1 руб.

3. За засьведчаньне ўсялякіх надпісаў, якія робяцца старанамі на дагаворах, бярэцца 50 кап. за надпіс.

4. За засьведчаньне даверанасьцяй бярэцца 75 кап. за даверанасьць.

5. Калі засьвядчаецца даверанасьць, якая выдаецца некалькімі паасобнымі грамадзянамі ці некалькімі юрыдычнымі асобамі разам, то, апроч установленай платы за даверанасьць, бярэцца па 10 кап. з кожнай асобы, апроч першай.

6. За засьведчаньне арыгіналу подпісаў на заявах і іншых дакумэнтах, але не на ўгодах або дагаворах, бярэцца па 10 кап. за подпіс.

7. За засьведчаньне подпісаў за няпісьменных сялян на абавязнасьцях, якія выдаюцца імі пры куплі ў розьніцу з раскладам тэрміну выплаты сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, бярэцца па 10 кап. за кожны подпіс.

8. За засьведчаньне копій дакумэнтаў, выданых або засьведчаных дзяржаўнымі ўстановамі, бярэцца:

а) за засьведчаньне копій угод і дагавароў—па 25 кап. з кожнай старонкі;

б) за засьведчаньне іншых дакумэнтау—15 кап. з кожнай старонкі.

9. За выдачу выпісу з рэестру бярэцца 15 кап. за старонку.

*Увага 1.* Зборы за выдачу выпісаў або засьведчаньне копій ня могуць быць большымі за зборы за засьведчаньне арыгіналаў гэтых самых дакумэнтаў.

*Увага 2.* Ва ўсіх выпадках, паказаных у таксе, у старонцы лічыцца 35 радкоў.

10. З часу ўвядзеньня ў сілу таксы касуецца такса збораў за засьведчаньне раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі і местачковымі саветамі ўгод, дагавароў і дакумэнтаў за 30 сьнежня 1926 г. і 24 сьнежня г, г. № 157 і 4711, выданая Народнымі Камісарыятамі Юстыцыі і Фінансаў і апублікаваная ў Бюлетэні СНК БССР за 15 студзеня 1927 г. № 2(27).

Народны Камісар Юстыцыі БССР і Пракурор
Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

Народны Камісар Фінансаў БССР *В. Мікуліч.*

---

Адказны Рэдактар **І. Фрыдман.**

